НАШЫ
СЛАВУТЫЯ
ЗЕМЛЯКІ



Здзіслаў Сіцька

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЗБІРАЎ КАМЯНІ



Здзіслаў Сіцька

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЗБІРАЎ КАМЯНІ

## Ігнат Дамейка

МІНСК
«ТЭХНАЛОГІЯ»
2005

УДК 008(476)(092)+929Дамейка
ББК 63.3(4Бел)-8
С 41

Галоўны рэдактар серыі
*Зьміцер Санько*

*На франтыспісе — партрэт Ігната Дамейкі.
З гравюры Ю. Бухбіндэра. 1884 год.*

**Сіцька З.**
С 41 Чалавек, які збіраў камяні: Ігнат Дамейка / Здзіслаў Сіцька. — Мн.: Тэхналогія, 2005. — 72 с., [9] арк. іл.; партрэт. — (Нашы славутыя землякі).
ISBN 985-458-095-4.

У кнізе расказваецца пра жыццёвы шлях нашага суайчынніка Ігната Дамейкі (1802—1889) — геолага, мінералога, даследніка Чылі, рэктара Чылійскага ўніверсітэта ў Сант'яга, нацыянальнага героя гэтай паўднёваамэрыканскай краіны.
Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 008(476)(092)+929Дамейка
ББК 63.3(4Бел)-8**

**ISBN 985-458-095-4**

# ПРАДМОВА

Цягам усяго 2002 года ў шмат якіх краінах свету, а найбольш у Чылі, Францыі, Польшчы, Летуве, Беларусі, ушаноўвалі памяць Ігната Дамейкі — аднаго з нашых самых славутых суайчыннікаў. Самы славуты — гэта не толькі традыцыйныя словы з нагоды ягонага 200-годдзя. Прынамсі, на двух кантынентах знаходзім больш за 70 помнікаў, мемарыяльных знакаў, разнастайных шыльдаў, на якіх напісана імя Ігната Дамейкі, — у юбілейным годзе з'явіліся, безумоўна, новыя. Бібліяграфія Ігната Дамейкі: кнігі, артыкулы, лісты, рэцэнзіі на ягоныя творы, а таксама кнігі, эсэ, вершы, артыкулы пра жыццё і дзейнасць чылійскага "апостала навукі і адукацыі" — налічвае 4500 найменняў*. Не выпадкова ж ЮНЕСКО абвясціла 2002 год годам Ігната Дамейкі.

На такі гонар заважылі не толькі ягоныя навуковыя дасягненні. Няшмат, пэўна, знойдзецца людзей, хто, пазбаўлены магчымасці працаваць дзеля Бацькаўшчыны, стаў шчыраваць дзеля росквіту іншай краіны, на карысць чужога народа. Такія людзі выйшлі з кола сяброў моладзевых гурткоў Віленскага ўніверсітэта — філаматаў і філарэтаў: Тамаш Зан, даследнік нетраў Паўднёвага Урала, заснавальнік мінералагічнага музея ў Арэнбургу; Язэп Кавалеўскі, прафесар, рэктар Казанскага ўніверсітэта, аўтар трохтамовага мангольска-расейска-французскага слоўніка; Аляксандар Ходзька, адкрывальнік, перакладчык і папулярызатар творчасці туркменскага паэта Махтумкулі; Адольф Янушкевіч, даследнік побыту і духоўнай культуры казахаў. І першым у іх шэрагу стаіць Ігнат Дамейка.

* *Ryn Z. J. Ignacy Domeyko obywatel świata. Kraków, 2002. S. 691.*

Наш суайчыннік – знакаміты навуковец-мінералог, геолаг, даследнік радовішчаў карысных выкапняў, рэарганізатар вышэйшай асветы Рэспублікі Чылі, абаронца індзейцаў Araўканіі, рэктар універсітэта ў Сант'яга. 46 гадоў ён вучыў і выхоўваў першае ды наступныя пакаленні маладой незалежнай краіны. Па ягоных падручніках, а іх, як казаў сам аўтар, напісаны стосы, вучыліся і вучацца студэнты Чылі, Пэру, Мэксікі. Ён стаў нацыянальным героем Чылі. Там імем нашага суайчынніка названы вуліцы, гарады, горны ланцуг – Кардыльера Дамейка, вяршыня ў Андах... У яго гонар быў адліты залаты медаль як сімвал неацэннага ўкладу Ігната Дамейкі ў развіццё адукацыі і эканомікі Чылі.

Урачыстасці 200-годдзя Ігната Дамейкі, наладжаныя ў нашай краіне, дазволілі і беларусам адчуць гонар за суайчынніка, але пазнанне духоўнай спадчыны слыннага сына ды ўсведамленне яе значнасці для нашага народа – наперадзе. Яшчэ ж зусім нядаўна нават пісьменнікам, якія ўзяліся за пяро, каб расказаць пра "грандэ эдукадара" чылійцаў, не былі вядомыя шмат якія старонкі ягонага жыцця на Бацькаўшчыне. Адзін, прыкладам, напісаў, што Ігната Дамейку, калі ён у 1884 годзе прыехаў на радзіму, ніхто не сустрэў. Сёння ж можна наведаць школьныя музеі Дамейкі ў вёсках Вялікая Мядзвядка Карэліцкага ды Крупава Лідскага раёнаў. Цяпер на ягонай Бацькаўшчыне, якую чылійскі рэктар называў старадаўнім імем Літва, ладзяцца навуковыя канферэнцыі, прызначаны стыпендыі імя Ігната Дамейкі, у мясцінах, дзе ён жыў, усталяваны мемарыяльныя дошкі. Пра жыццёвы шлях нашага суайчынніка, сяброў, прыроду Чылі, можна прачытаць у кнізе ягоных успамінаў*. Ці не самыя шчымлівыя радкі гэтай кнігі – пра вяртанне Ігната Дамейкі пры канцы жыцця ў Мядзвядку, у бацькоўскі дом, пра сустрэчу з раднёй, з землякамі, з якімі ён – пасля 53-гадовай эміграцыі – размаўляў на нашай мове.

---

* *Дамейка І. Мае падарожжы. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2002. – 496 с.*

Жыхары Мядзвядкі, Жыбуртоўшчыны, Норцавічаў шчыра віталі Дамейку, а старэйшыя казалі госцю, што памятаюць яго маленькім.

Хацелася б, каб пасля новых сустрэчаў з Ігнатам Дамейкам на старонках гэтай кнігі ў памяці чытачоў засталася велічная постаць нашага славутага суайчынніка.

Аўтар выказвае шчырую падзяку спадарыні Ядвізе Гарбоўскай і спадару Здзіславу Яну Рыну (Польшча) за дапамогу ў падборы літаратуры і за выкарыстаныя ілюстрацыі.

# ДАРОГА Ў ВЯЛІКІ СВЕТ

*Нашыя казкі * У шчучынскіх піяраў * Віленскі ўніверсітэт * Філаматы і філарэты * Магістр філасофіі * Тры чвэрці да смерці * У паўстанцкім войску * На чужыне * Ад'езд у Чылі*

У Вялікай Мядзвядцы, што непадалёку ад слыннага Міра, у сям'і былога земскага суддзі Наваградскага ваяводства Гіпаліта Дамейкі і Караліны з роду Анцутаў 31 ліпеня 1802 года нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Ігнатам. Яго ахрысціў ксёндз з недалёкага мястэчка Паланечка, хоць, як згадваў сам Ігнат, сям'я была вуніяцкай. Гіпалітавых сыноў вучыў гувернёр француз. А любоў да Бога, да працы, да ведаў выхавалі ў сваіх дзяцей самі бацькі ды нянька Тадора, якая баяла ім нашыя казкі. Іх успомніў Ігнат на выспе Мадэйра, калі карабель, на якім ён плыў у Чылі, прыпыніўся ў порце Фуншал. Там ён упершыню ўбачыў лімонавыя, апельсінавыя дрэвы, і яму прымроілася, што "гэта яблыні з сярэбранымі ды залатымі яблыкамі". І ён будзе стаяць сярод іх, "нібыта наймалодшы з трох братоў нашых дзіцячых казак"*.

Пасля смерці бацькі ў 1809 годзе Ігнатам апекаваліся дзядзькі: Ігнат, гаспадар маёнтка Жыбуртоўшчына, што каля Дзятлава, і Язэп з Азяранаў, які пасля заканчэння Галоўнай Літоўскай Школы** вывучаў мінералогію ў горнай акадэміі нямецкага горада Фрайбэрга. Яны і выправілі дзесяцігадовага пляменніка ў

* *Дамейка І. Мае падарожжы. С. 137.*

** *Галоўная Школа Вялікага Княства Літоўскага — так называлася былая (заснавана ў 1579 годзе) езуіцкая Віленская Акадэмія ад 1773 да 1796 года, калі была перайменаваная ў Галоўную Віленскую Школу. Ад 1803 года — Імператарскі Віленскі ўніверсітэт.*

Шчучын. Там манахі ордэна піяраў трымалі школу, фактычна гімназію, вядомую высокім роўнем ведаў, якія давала сваім выхаванцам. У апошні год вучобы, у гэтак званым класе філасофіі, шкаляры вывучалі матэматыку, алгебру і геаметрыю, механіку ды фізіку. Прыродазнаўчыя навукі былі ўведзеныя ў праграму навучання Шчучынскай піярскай школы з 1803 года, на 4 гады раней, чым у Польшчы. Сучасныя даследнікі, аналізуючы змест тагачасных піярскіх падручнікаў фізікі, матэматыкі, натуральнай гісторыі здзіўляюцца прыгажосці іх мовы, лагічнасці падачы матэрыялу. Дарэчы, піяры Літоўскай правінцыі выпрацавалі сваю методыку выкладання. У Шчучынскай школе любоў да Бога спалучалі з пазнаннем Богам створанага свету. Там упершыню ў нашай краіне зацвіў батанічны сад, пасаджаны ў 1785 годзе Станіславам Юндзілам. Там дапытліваму юнаку Ігнату Дамейку прышчапілі атожылак Боскага дрэва пазнання і тварэння. І дарога з Шчучына вяла ў Вільню.

20 верасня 1816 года Ігнат Дамейка быў прыняты на факультэт фізічных і матэматычных навук Віленскага ўніверсітэта*. Як вядома, толькі ў 1781 годзе там сталі выкладаць прыродазнаўчыя навукі. Але цягам часу з дапамогай замежных навукоўцаў, як, прыкладам, прафесара натуральнай гісторыі і батанікі француза Ж.Э.Жылібера, Віленскі ўніверсітэт стаў сапраўды галоўнай вышэйшай школай для моладзі былога Вялікага Княства Літоўскага. Лепшых выпускнікоў пасылалі прадоўжыць вучобу за мяжу, як згаданага Ігнатавага дзядзьку Язэпа Дамейку ды Рамана Сімановіча, будучага першага выкладчыка мінералогіі Віленскага ўніверсітэта**.

Апрача фізічных і матэматычных курсаў, студэнтам фізічна-матэматычнага факультэта выкладалі тапаграфію, архітэктуру, рыхтуючы іх да прафесіі інжыне-

---

* *Wójcik Z. Ignacy Domeyko. Zarys biografii w latach 1802—1831 // Prace Muzeum Ziemi. Zeszyt 42. Warszawa, 1993. S. 123.*

** *Garbowska J. Nauki geologiczne w uczelniach Wilna i Krzemieńca w latach 1781—1840 // Prace Muzeum Ziemi. Zeszyt 42. Warszawa, 1993. S. 29.*

ра, якая асабліва вабіла Ігната. Яны вывучалі замежныя мовы, гісторыю, літаратуру. Менавіта на лекцыях паэзіі Дамейка пазнаёміўся з Адамам Міцкевічам ды неўзабаве далучыўся да студэнцкага таварыства "Звяз сяброў", мэтай якога было развіццё навукі. Ігнат актыўна ўдзельнічаў у навуковых паседжаннях, выступаў з рэфератамі, пэўны час быў у "Звязе" нават старшынёй. Фактычна так яго выпрабоўвалі старэйшыя калегі, якія стварылі шэраг студэнцкіх таемных суполак і падбіралі туды кандыдатаў з малодшых курсаў. Урэшце 5 траўня 1820 года Дамейка стаў правадзейным сябрам таварыства філаматаў, сярод якіх быў вядомы з мянушкі Жэгота. Гэтая мянушка сталася другім імем Ігната Дамейкі. Адам Міцкевіч нават быў назваў сваю першую паэму "Жэгота" (пасля замяніў на "Пана Тадэвуша"). У ягоных жа "Дзядах" адзін з герояў атрымаў імя Жэгота.

Вучоба доўжылася чатыры гады, і ў першай палове 1820 года Жэгота, як жартаваў, стаў "недамагістраваным магістрам". Ён застаўся ў Вільні, слухаў лекцыі Лялевеля, "хадзіў на архітэктуру" і рыхтаваў дысертацыю. Можна сцвярджаць, што на Ігната Дамейку не маглі не паўплываць лекцыі Ігната Гарадзецкага, ад'юнкта кафедры хіміі Віленскага ўніверсітэта. І.Гарадзецкі займаўся даследваннем хімічнага складу мінералаў, а таму, безумоўна, спалучаў курс мінералогіі з асновамі хімічных ведаў. Як мяркуе польская даследніца Ядвіга Гарбоўская, Гарадзецкі знаёміў студэнтаў з сістэмамі класіфікацыі мінералаў, складзенымі на аснове хімічных метадаў, даводзячы ім, што хімія паслужыць далейшаму развіццю мінералогіі. Варта дадаць, што на пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя на ўсіх кафедрах універсітэта вялася актыўная даследніцкая праца.

Не цураліся навуковых доследаў і студэнты. Асабліва актыўна пачалі дзейнічаць сябры створаных філаматамі "падапечных" таварыстваў: "Звяз сяброў", "Прамяністыя", "Філарэты", "Навуковы звяз", "Звяз краёвых натуралістаў". Прыкладам, статыстычны ка-

мітэт “Звяза сяброў” склаў інструкцыю, як апісваць прыродныя і эканамічныя ўмовы земляў былога Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта “Звяз сяброў” стаў у лютым 1822 годзе таемнай арганізацыяй, як і таварыства філарэтаў, якое аб’ядноўвала “блізу 15% студэнтаў Віленскага ўніверсітэта”*. Жэгота быў адным з актыўных сяброў. Амаль усе таемныя таварыствы цягам часу свае асветніцкія і выхаваўчыя мэты падпарадкавалі адзінай ідэі — дасягненне незалежнасці Радзімы. Ды знайшоўся здраднік.

У красавіку 1822 года Дамейка здаў экзамены па заалогіі, батаніцы, мінералогіі, філасофіі, хіміі, архітэктуры, некалькі спецыяльных, у тым ліку і пісьмовы экзамен па матэматыцы, ды быў дапушчаны да напісання дысертацыі. Абарона адбылася 25 чэрвеня: факультэцкая рада прызнала, што кандыдат заслужыў ступень магістра. Але Ігнатава мара стаць выкладчыкам у Віленскім універсітэце не збылася. Пэўны час ён яшчэ жыў у Вільні, але ўжо ўвосень 1823 года гаспадарыў у дзядзькавым маёнтку Заполле каля Ліды. Там яго і арыштавалі, прывезлі ў Базылянскія муры і 19 лістапада ўжо дапытвалі па справе філаматаў і філарэтаў. За хадайніцтвам дзядзькі Ігнат быў вызвалены з-пад варты, але працяглы час заставаўся пад следствам.

Увосень 1824 года філаматам вынеслі прысуд, паводле якога Дамейку выслалі ў дзядзькаў маёнтак пад нагляд паліцыі. Жыў ён спачатку ў Жыбуртоўшчыне каля Дзятлава, але ўрэшце асеў у Заполлі. Кара палягала пераважна ў тым, што былыя філаматы і філарэты не дапускаліся на дзяржаўную службу. А нагляд не быў надта строгім. Жэгота з сябрамі ездзіў па наваколлі, часта бываў таксама ў Мядзвядцы, у Сачыўках каля Баранавічаў, у Бальцэніках, дзе жыла ягоная стрыечная сястра Марыля з Верашчакаў. Наведваўся ён і ў Вільню. Можна меркаваць, што так мацаваліся сувязі дзеля будучага змагання. Таксама ў Вільні Да-

* *Wójcik Z. Ignacy Domeyko. Zarys biografii... S. 133.*

мейка ад імя наваградскіх татараў спрабаваў дамовіцца выдаць Каран у перакладзе на польскую мову. (Гэты пераклад Ігнат Дамейка зрабіў разам з ксяндзом Дзянісам Халявінскім. Пазней Яўхім Лялевель стараўся надрукаваць яго ў Познані.) Ігнат перакладаў і "Песні Асіяна" — патрыятычны твор шатляндскага паэта Джэймза Макфэрсана, прадаваў у Наваградку Міцкевічавы "Крымскія санеты".

Пазбаўлены права займаць якую б ні было пасаду, магістр філасофіі гаспадарыў у маёнтку Заполле "з кніжкай у руках". Дамейка пасля поспеху ягонай навуковай працы з вышэйшай матэматыкі марыў менавіта пра навуковую кар'еру, а весці гаспадарку не хапала ведаў. Ігнату даводзілася вычытваць навіны агракультуры з замоўленых у Нямеччыне кніжак. І не выпадкова Адам Міцкевіч у паэме "Дзяды" назваў Жэготу "найлепшым у Літве аканомам". А яшчэ Дамейку даводзілася лячыць хворых сялян, прышчэпваць у садзе новыя гатункі яблыкаў і груш, замяняць ветэрынара. І, відаць, Ігнат пагадзіўся з сваім лёсам. Ён намерыўся будаваць для сябе ў Заполлі дом...

Напярэдадні Калядаў 1830 года прыляцела вестка, што ў Варшаве моладзь заклікала да паўстання і ўжо збіраецца паўстанцкае войска. Таксама і ў Вільні, Літве-Беларусі ды на Жмудзі пачалі сходзіцца патрыёты — радзіліся, рыхтавалі зброю. Жэгота аб'язджаў сяброў, знаёмых у Лідскім павеце і намаўляў браць прыклад з палякаў, а сам ўжо "марнаваў кулі і порах" — вучыўся страляць. Урэшце дамовіліся пра збор у трох месцах: з Лідскага павета — каля Васілішак, з Слонімскага — у Храбравіцкай пушчы, а з Наваградскага — у Навінскіх лясах. Чакалі толькі загаду з Вільні. Прадвеснем ён даведаўся пра пераможныя бітвы паўстанцаў пад Варшавай.

Аднойчы, у траўні 1831 года, у Заполле прыехаў філарэт Станіслаў Казакевіч і прывёз Жэготу вусны загад Віленскага Часовага ўрада (Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэта): паведаміць у стаўку галоўнага камандзіра польскага паўстанцкага войска,

што ў шмат якіх гарадах Віленскай губерні створаны паўстанцкія атрады, што ў Вілейцы ды іншых мястэчках паўночнай Беларусі паўстанцы атрымалі перамогу над расейскімі гарнізонамі, што віленская студэнцкая моладзь пайшла партызаніць у Рудніцкую пушчу. А яшчэ Віленскі Ўрад прасіў стаўку прыслаць афіцэраў-інструктараў. Дзеля пацверджання правамоцнасці Казакевіч перадаў Дамейку, ужо як эмісару, пароль.

Ігнат адразу ж паехаў у Горадню. Тым часам жандары пільна сачылі за паязджанамі. Дамейка таксама мусіў тлумачыць мэту свайго візіту. Але яму пашэнціла: удаў з сябе пакрыўджанага — маўляў, прыехаў скардзіцца ў суд. Гарадзенскія сябры-філарэты накіравалі яго з рэкамендацыйным лістом да "свайго чалавека" на ўзмежку Аўгустоўскай пушчы. Той даў праваднiка, які, абмінуўшы памежную варту, прывёў эмісара Жэготу ў шляхоцкі засценак Дубава да "вядомага сваёй пачцівасцю ліцьвіна Андрыяцкага". Перад Ігнатавым прыходам Андрыяцкі правёў таемнымі сцежкамі двух эмісараў з Вільні. Пра гэта даведаліся жандары ды прыехалі на сядзібу Андрыяцкага, куды якраз прыйшоў Дамейка. Гаспадар з госцем схаваліся ў гумне, а мałady парабак не выдаў іх.

Андрыяцкі не раіў Ігнату ісці далей, бо не сумняваўся, што віленскія эмісары ўжо ў стаўцы, але ўсё ж знайшоў для яго праваднiка. Той завёў Дамейку ў вёску над ракою Наравам, дзе солтыс павінен быў накіраваць эмісара да партызанаў. Але тыя прынялі госця за шпіёна, пастанавілі расстраляць яго і ўжо нават прывязалі да хвоі. Ігната выратавала ягоная мужнасць і прыналежнасць да каталіцкай канфесіі. Ксёндз, які прыйшоў спавядаць асуджанага, выслухаўшы яго, развязаў і сказаў: "Уцякай!" Ігнат адказаў ксяндзу, што падазрэнне памылковае, што ён не будзе ўцякаць. Той узяў яго за руку, адвёў за пару соцень крокаў і знік у гушчары. А Ігнат, раптоўна адчуўшы стому і слабасць, "зваліўся на мох і заснуў".

Калі прачнуўся, ужо развіднела. Заставацца ў пушчы не выпадала, і ён пайшоў куды вочы павялі. Апы-

нуўшыся між ліха і гора, ведаючы пра поспех місіі папярэдніх пасланцоў, Ігнат намерыўся вярнуцца дадому. Яму пашэнціла напаткаць знаёмага солтыса, з дапамогай якога ўдалося перайсці мяжу.

Пры канцы траўня ў Заполле прыехалі філарэт Канстанцін Залескі з параненым сябрам Вінцэнтам Непакайчыцкім. Залескі быў ад'ютантам камандзіра польскага корпуса генерала Дэзыдэрыя Хлапоўскага. Той пасля пераможнай бітвы 23 траўня 1831 года пад Гайнаўкай скіраваўся да Вільні. Залескі ж ехаў з даручэннем паведаміць партызанам пра надыход корпуса ды прапановай далучыцца да рэгулярнага войска. Пераапранутага на фурмана Непакайчыцкага Ігнат адправіў у Вільню, а Залескага — у Рудніцкую пушчу. Нават з скупых радкоў Дамейкавых дзённікаў можна зразумець, што ягоныя госці трапялі ў Заполле не выпадкова: гэты адрас быў добра вядомы ў Вільні. Сам Ігнат пастанавіў далучыцца да корпуса Хлапоўскага і паехаў насустрач.

І вось цёплым, сонечным днём, едучы Жалудоцкім гасцінцам, Ігнат здаля пачуў вайсковую музыку і ўбачыў бела-чырвоныя харугвачкі. Стаўшы ўзбоч дарогі, ён з радасцю прыглядаўся да шыхтоў: вылучаліся ўланы, стралецкі легіён, афіцэры-інструктары, асочнікі ды леснікі з Белавежскай пушчы. Па дарозе да Хлапоўскага далучыліся і партызаны: сяляне, парабкі, засцянковая шляхта, мяшчане — апранутыя кожны ў сваё ды розна ўзброеныя. Корпус налічваў, як згадаў Дамейка, 700—800 жаўнераў.

Фелікс Вратноўскі, ад'ютант генерала Хлапоўскага, пазнаў былога студэнта Жэготу і падвёў да генерала. Наступным днём у Лідзе Ігнат Дамейка стаў жаўнерам паўстанцкага войска.

Гарнізон Ліды здаўся амаль без бою. З 180 расейскіх жаўнераў два дзесяткі з афіцэрам пажадалі далучыцца да паўстанцаў. Рэшту, як піша Дамейка, адпусцілі на волю. Хлапоўскі рушыў далей, але ў Жырмунах корпус трапіў у засаду. Пасля гэтага здарэння пастанавілі збочыць з простага шляху на Віль-

ню ды праз Голдаў і Мыта прабівацца ў бок Эйшышак дзеля злучэння з віленскімі паўстанцамі і партызанамі. Па дарозе да корпуса далучаліся самахотнікі, і ўжо праз пару дзён Хлапоўскі загадаў стварыць першы батальён новага палка. Камандзірам быў прызначаны жмудзін Станіслаў Мацэвіч, які ў войску вялікага князя Канстанціна даслужыўся да чына маёра, а палкавым ад'ютантам стаў Ігнат Дамейка.

З нешматлікіх першых сутычак корпуса Хлапоўскага з непрыяцелем Дамейку запомніўся бой кавалерыстаў авангарда з казакамі, якія везлі дэпешу віленскаму генерал-губернатару. Казакі не здаліся, хоць іх было значна менш, "калолі нашых жаўнераў, але ўрэшце мы іх пабілі". Ацалела ўсяго некалькі, і пасля яны ехалі ззаду — ніхто іх не пільнаваў.

З той дэпешы Хлапоўскі даведаўся, што на падмогу віленскаму гарнізону ідзе нейкі расейскі аддзел. Пасля Хлапоўскага вінавацілі, што не рушыў на перахоп. Дамейка апраўдвае рашэнне камандзіра корпуса, але, відаць, сапраўды праз нерашучасць Хлапоўскага ў Вільні змагло сабрацца значнае расейскае войска.

У Троцкім павеце, у Габрэлёве, маёнтку Габрэля Агінскага (кіраўніка троцкіх паўстанцаў ды сябра Віленскага Часовага ўрада) корпус генерала Хлапоўскага злучыўся з легіёнам віленскіх студэнтаў — схуднелых, змучаных партызанкай і шматлікімі сутычкамі з непрыяцелем, дрэнна апранутых і абутых, узброеных паляўнічымі стрэльбамі ды трафейнай зброяй.

Неўзабаве да корпуса далучыўся "даволі шматлікі, добра абмундзіраваны, узброены пікамі і палашамі кавалерыйскі аддзел Эміліі Плятэрчанкі"*.

Паступова корпус разрастаўся — па нейкім часе там было паўтары тысячы жаўнераў. А пры канцы чэрвеня ў маёнтку Рыконты генерала Антона Гелгуда (пераможцы ў бітве 26 лютага 1831 года каля вёскі Грохаў пад Варшавай), калі туды з сваёй дывізіяй прыйшоў сам Гелгуд, сабралася, як падае Дамейка, да

* *Дамейка І. Мае падарожжы. С. 35.*

чатырнаццаці тысяч жаўнераў. Там жа на нарадзе пастанавілі: на чале з Гелгудам выступіць на Вільню. Мацэвічу загадалі весці свае роты ў Коўню. Там Мацэвіч і Дамейка спрабавалі хоць неяк апрануць тых 500—600 жаўнераў свайго палка. Не ставала і зброі: яны мелі ўсяго чатырыста стрэльбаў, патронаў жа — толькі па некалькі на кожнага. Давялося збіраць па крамах і дамах волава, порах ды салетру і серку.

Спачатку з-пад Вільні прыходзілі неблагія весткі, але пры канцы другога тыдня ад габраяў стала вядома пра паразу паўстанцаў. Неўзабаве ў Коўню з музыкай прыйшоў корпус Хлапоўскага, але праз дзень рушыў у Кейданы, пакінуўшы дзеля абароны полк Мацэвіча. Але якая тут магла быць абарона, калі, як піша Дамейка, яны мусілі паставіць бараніць мост цераз Вяллю самахотнікаў, узброеных пікамі і косамі? Казакі наляцелі ў горад імклівай атакай — большая частка жаўнераў палка пасля кароткай сутычкі трапіла ў палон. Завязаўся бой і на мосце: абаронцаў яго пачалі абстрэльваць з гарматаў. У гэтым баі ледзь не трапіла ў палон Эмілія Плятэр. Яна бясстрашна, не зважаючы на карцеч, імчалася ў атаку, але раптам упала з каня. Да яе падляцеў Мацэвіч, саскочыў, пасадзіў на свайго каня і так ўратаваў паненку.

Праз дзень рэшткі палка сабраліся ў Кейданах, дзе Дамейка з камандзірам спадзяваліся знайсці зброю для трохсот мясцовых сялян. "Да новых жаўнераў Мацэвіч звярнуўся з палымянай прамовай па-жмудску". Па-жамойцку прамаўляў да іх і манах-бернардзінец*.

У Кейданах паўстанцкае войска затрымалася нядоўга і рушыла маршам на Шаўлі. Па дарозе дагналі ар'ергард корпуса Хлапоўскага, і Дамейка пад'ехаў

---

* *З такіх заўваг нашага земляка выразна відаць, што Ігнат Дамейка адрозніваў ліцьвіноў, у тым ліку сябе, ад жамойтаў, што ў словы "літоўскі" і "жмудскі" ён укладваў розны сэнс. Калі ён пісаў, што сяляне з Мядзвядкі, Норцавічаў каля Дзятлава гаварылі "па-літоўску", то гэта значыць, што яны гаварылі на мове, якая цяпер называецца беларускай. Дамейкавы сябры-філаматы называлі яе то "ліцьвіна-рускай", як Адам Міцкевіч, то "славяна-крывіцкай", як Ян Чачот.*

адрапартаваць генералу. Той прыняў яго ветліва, але Дамейка заўважыў, што Хлапоўскі вельмі стомлены. Святар гэтага корпуса Лога, родам з Пазнаншчыны, таксама ветліва прывітаў Ігната і сказаў: "Віншую цябе і цешуся: бачыў учора прыгожую атаку аднаго швадрона вашых ліцьвінскіх паўстанцаў"*.

Але такіх прыемных хвілін больш не было. Дамейка прыгадаў адзін выпадак, што пакінуў асабліва сумнае ўражанне. Аднойчы войска затрымалася каля стаўкі генерала Гелгуда. Пачалі збірацца афіцэры і наракалі на бяздзейнасць, на бязладдзе, выгаворвалі, што дарма з усяго абшару Літвы і Жмудзі сабралі партызанаў, якія маглі б нанесці больш шкоды непрыяцелю ў сваіх краях. А галоўнага камандзіра вінавацілі, што ён думае пра перамовы з непрыяцелем ды вядзе войска ў Прусы. Самыя гарачлівыя пайшлі патрабаваць ад Гелгуда, каб перадаў камандаванне генералу Хлапоўскаму. Але дарма. Гелгуд выйшаў да сабраных абураны і толькі паўшчуваў крыкуноў.

Наступным днём полк Мацэвіча ўдзельнічаў у бітве каля Расаліна, дзе загінула шмат жаўнераў, а Дамейка ледзь не трапіў у палон. Тады ж рота з корпуса Хлапоўскага ўвайшла ў Шаўлі. Пасля непрацяглай сутычкі нешматлікі расейскі гарнізон схаваўся за прыкасцельную мураваную агароджу: тры атакі паўстанцаў былі адбітыя. Новага падмацавання генерал Хлапоўскі не прыслаў, бо не намерваўся браць Шаўлі. А расейская армія набліжалася.

Рэшткі дывізіі Гелгуда, корпуса Хлапоўскага адступілі ў Куршаны. Там у стаўцы Гелгуда і адбылася нарада, у якой удзельнічалі генералы Дэмбінскі, Роланд, Шыманоўскі, Тышкевіч. Паўстанцы чакалі пастановы. "Шмат нас, ліцьвіноў, – занатаваў Дамейка ў дзённіку, – сядзела каля раскладзенага ў полі вогнішча". Была там і Плятэрчанка. Яна прадчувала, што можа вырашыць нарада ды абуралася: "Завядуць у Прусы на ганьбу...".

Так і здарылася. Пастанавілі, што пяхотны корпус

* *Дамейка І. Мае падарожжы. С. 43.*

пад камандаваннем Роланда і Шыманоўскага — каля трох тысяч жаўнераў — пойдзе на Мемель (Клайпеду), разлічваючы на зброю і амуніцыю з Англіі. Дэмбінскі з паўтаратысячнай кавалерыяй і артылерыяй будзе прабівацца пад Варшаву да галоўнай паўстанцкай арміі. Гелгуд з Хлапоўскім павядуць рэшткі свайго войска пад прускую мяжу. На трэці дзень пасля нарады ў Куршанах Эмілія Плятэр развіталася з былымі паплечнікамі і папракнула, што згадзіліся, каб іх вялі ў Прусы. Гэтая смелая дзяўчына намерылася вярнуцца з сваім аддзелам у родныя мясціны, каб партызаніць там*.

Корпус генерала Д.Хлапоўскага 13 ліпеня 1831 года быў інтэрнаваны ў Прусах. Прусакі некалькі месяцаў трымалі паўстанцаў у розных мясцінах, дамагаючыся, каб яны згадзіліся вярнуцца ў Расейскую імперыю. Дамейка з сябрамі спрабаваў уцячы ў Англію, але дарэмна. І толькі ўзімку ён атрымаў пашпарт ды 15 студзеня 1832 года выехаў у Дрэздэн, дзе спаткаўся з Адамам Міцкевічам. Адтуль яны пераехалі ў Францыю. Пэўны час жылі ў правінцыі Шампань, а з жніўня аселі ў Парыжы. Трапіўшы ў горад, да якога з універсітэцкіх гадоў ён імкнуўся, Ігнат Дамейка спачатку толькі цешыўся аглядам палацаў, святыняў, помнікаў. Пасля далучыўся да жыцця палітычных эмігрантаў**. Але ўрэшце пачаў стараніцца эміграцкага руху, дапамагаў толькі Таварыству навуковай дапамогі рассылаць і раздаваць вылучаную французскім урадам субсідыю — 25 франкаў штомесяц — эмігрантам, якія сталі вучыцца ў навучальных установах Францыі. Ён і сам наважыўся прадоўжыць адукацыю. Цягам 1833 і 1834 гадоў Ігнат слухаў лекцыі ў Сарбоне, у Батанічным садзе ды ўрэшце выбраў хімію і геалагічныя навукі. 23 жніўня 1835 года Дамейка па-

---

* *У сутычцы з расейскім войскам Эмілія Плятэр была смяротна параненая і памерла ў вёсцы Юстынава каля Сейнаў. Адам Міцкевіч увекавечыў яе ў вершы "Смерць палкоўніка".*

* *6 жніўня 1832 года Дамейка разам з Адамам Міцкевічам сталі сябрамі парыжскага Таварыства Літоўскага і Рускіх земляў.*

ступіў у Парыжскую Горную школу і закончыў яе 1 жніўня 1837 года.

Атрымаўшы дыплом, пэўны час малады геолаг рыхтаваў Атлас польскіх земляў, апрацоўваў гідраграфічную і геалагічную карты, шукаў руду ў лясах Ніжняга Эльзаса, знайшоў там багатыя радовішчы жалезнай руды. Але ўвосень 1837 года рэктар Горнай школы прафесар Дзюфрэ прыслаў Дамейку, свайму лепшаму вучню, ліст, у якім заахвочваў яго ехаць у Чылі выкладаць хімію і мінералогію. Чылійцы прапанавалі добры заробак і аплату кошту падарожжа. Тады ў дзённіку Дамейка запісаў: "Я ажыў! Аджыў мой з дзяцінства запал да падарожжаў". Дамейка падпісаў кантракт на шэсць гадоў, напакаваў трыццаць скрыняў абсталявання, прыладаў і 31 студзеня 1838 года рушыў у далёкую дарогу.

Па дарозе ў Чылі Ігнат Дамейка наведаў Лондан, дзе быў уражаны ладам жыцця ангельцаў і багаццем тавараў, саборам Святога Паўла. Па дарозе ў Фэлмус* ён "паглядзеў на Англію, на адмысловыя дамы і заможныя гарады". 9 лютага 1838 года наш зямляк паплыў на караблі "Спэй" у Паўднёвую Амэрыку. "Спэй" прыпыняўся каля Канарскіх выспаў, прыстаняў Рыо-дэ-Жанэйра, Мантэвідэо, Буэнас-Айрэса. З Буэнас-Айрэса давялося галяпаваць на конях, бо па тых бязмежных аргенцінскіх стэпах ніхто не ездзіць нават трушком. Падарожных падганяла вестка, што ў Кардыльерах ужо выпаў снег і кожнага дня горы могуць стаць непраходнымі. І сапраўды, каля перавалу Успалата сцежкі, па якіх вёў шлях з Аргенціны ў Чылі, былі засыпаны снегам. Людзі і мулы па шыю правальваліся ў снег, сам Дамейка ледзь не зваліўся ў прорву – яго выратаваў праваднік. А на перавале падарожных чакала такая завіруха, што "ніякая бура ані нашыя зімовыя завеі не могуць і параўноўвацца з гэтай непагаддзю".

17 траўня Дамейка ступіў на чылійскую зямлю.

---

* *Фэлмус — горад і порт у паўднёва-заходняй Англіі.*

# КАКІМБА

*Калегіюм * Стварэнне лабараторыі * Першыя заняткі * Экскурсія ў сярэбраныя капальні * Курс хіміі * Навука мінералогія * Публічны экзамен*

У чылійскім горадзе Какімба, што на поўнач ад сталіцы краіны Сант'яга, яшчэ за гішпанцамі наладзілі класічную школу. Дзяцей крыху вучылі лацінскай мове, але надта не прымушалі. І калі надыходзіў час сіесты, то і шкаляры мусілі класціся ў ложкі, а для тых, хто спаць не хацеў, прыдумалі нават пакаранне. Такая была сонная вучоба. Пасля вайны за незалежнасць новыя мясцовыя ўлады паклапаціліся і пра адукацыю: стварылі калегіюм ды наладзілі заняткі па лацінскай і французскай мовах паводле новай методыкі. Урад Рэспублікі Чылі ўвогуле не шкадаваў грошай на асвету. З Сант'яга прыслалі настаўніка матэматыкі, а манах аўгусцінец пачаў выкладаць філасофію. З часам ўвялі ўрокі гішпанскай мовы, геаграфіі ды рэлігіі. Але краіне больш былі патрэбныя геолагі, рудазнаўцы. Ды хто ж мог навучыць моладзь шукаць і пазнаваць руду, плавіць яе так, каб выходзіла больш металу? Трэба было запрашаць адпаведных настаўнікаў, але іх не было нават у Сант'яга.

Ігнат Дамейка прыехаў у Какімба на Сёмуху, 3 чэрвеня 1838 года, а чацвертай гадзіне. Назаўтра ў такую ж пару надарылася нагода задумацца над прычынай шаленства стыхіі гэтага краю: адбыўся вялікі землятрус. У мястэчку Рыкалета, што за дваццаць міляў ад Какімба, нават разбурыўся касцёл.

Новага настаўніка прынялі вельмі зычліва, і пэўны час у горадзе гаварылі толькі пра яго. У мясцовай газеце "El Minero de Coquimbo" надрукавалі нататку

пра прыезд з Францыі "прафесара хіміі і мінералогіі". А калі з порта прывезлі трыццаць скрыняў абсталявання для нейкай лабараторыі, то здзівіліся і яго-ныя калегі-выкладчыкі. Бо ў калегіюме не было нават адпаведнага памяшкання. Для хімічнай лабараторыі ды збору мінералаў патрэбны быў спецыяльны корпус. Але ніхто не ведаў, які. Дамейка прапанаваў свае паслугі: у Вільні ён цэлы год вывучаў архітэктуру. Урад даў на будаўніцтва грошы. І неўзабаве "прафесар хіміі і мінералогіі" распакоўваў свае скрыні. Здзейснілася мара Дамейкі наладзіць добрую хімічную лабараторыю, дзе можна займацца аналізам мінералаў і рудаў.

Няпроста было нашаму земляку вывучыць за тры месяцы гішпанскую мову, але паўстала перад ім яшчэ больш складаная задача: з чаго пачынаць выкладаць новую навуку — мінералогію? Вучні калегіюма не ведалі нават асноваў хіміі ды фізікі. Дамейка стаў абдумваць, чаму перш вучыць дзяцей, што можа прынесці больш карысці маладой дзяржаве. Ён склаў свой план навучання, адрозны ад прынятага, але скіраваны на практычнае выкарыстанне ведаў. Пачынаючы з простых доследаў, лягчэй было зацікавіць вучняў навукай ды наглядна паказаць неабходнасць спецыяльных ведаў. І толькі пасля, на падставе ўбачанага, ён намерваўся даваць асноўныя ўяўленні пра паняцці і законы фізікі.

На занятці ў верасні 1838 года прыйшло пятнаццаць вучняў розных узростаў. Як і прадбачыў Ігнат, ні пра фізіку, ні пра хімію ніхто з іх ўвогуле не меў уяўлення. Новы настаўнік пачаў перш паказваць розныя прывезеныя ім прылады, рыштунак — тое, што найбольш вабіць любога хлопчыка. Хоць часам хтосьці закрываў далонню рот, бо не мог стрымацца ад смеху, пачуўшы, як настаўнік перакручвае гішпанскія словы, але ўвогуле стараліся слухаць яго ўважліва. Дамейка звяртаў увагу на вядомую з'яву або рэч, стараўся на кожным уроку паказаць які-небудзь дослед. А пасля прапаноўваў кожнаму вучню паўтарыць бачаны до-

след, сваімі словамі перадаць сказанае настаўнікам ды расказаць, што сам зрабіў, выканаў. І толькі тады Дамейка пачынаў тлумачыць сутнасць доследу. Ён імкнуўся адпаведнымі пытаннямі скіраваць вучняў на асэнсаванне, а пасля і самастойнае тлумачэнне ўбачанай з'явы і выяўленне яе прычыны. Дамейка шмат увагі аддаваў нясмелым вучням, а таму ўсе аднолькава роўна засвойвалі новыя веды і поспехі былі ва ўсіх.

Ужо праз тры месяцы, у студзені 1839 года, на публічным аглядзе бацькі з цікаўнасцю слухалі, як вучні Дамейкі расказвалі пра будову і прынцыпы дзеяння барометра, тэрмометра, арэометра, помпаў, назіралі іх доследы. Некаторыя прысутныя, праўда, заўважылі, што не згадвалася пра мінералогію, аднак малады настаўнік супакоіў бацькоў, што гэтую навуку яны пачнуць адольваць у наступным годзе.

А Дамейка ўжо думаў пра неабходныя для будучых заняткаў мясцовыя мінералы, руды. Як толькі пачаліся канікулы, ён выбраўся на сваю першую ў Чылі экскурсію да капальняў серабра ў Аркуэрас. Там наш зямляк не толькі ўпершыню ўбачыў каштоўную чылійскую руду, але і сабраў калекцыю мінералаў.

У сакавіку, калі пачаўся новы школьны год, Дамейкі ўжо вырашыў, як выкладаць хімію сынам уладальнікаў капальняў, медных рудняў* ды амальгамарняў** серабра. Ён выкарыстаў той жа практычны метад, што і ў мінулым годзе, калі ўсё можна, як кажуць, памацаць сваімі рукамі. На першым жа ўроку дон Ігнасіё паказаў дослед з кіслародам. Вучні з цікаўнасцю назіралі, як з рэторты ў ваду выходзяць бурбалкі і як настаўнік збіраў іх у шкляніцу. А як яны дзівіліся пасля, калі ўбачылі, з якім зіхаценнем у гэтым "паветры" палаюць серка, вугаль, фосфар, нават жалезнае пілавінне, а патушаная сярнічка зноў сама загараецца! Дамейка дазволіў кожнаму выканаць уба-

---

* *Рудня — традыцыйны назоў металургічнага прадпрыемства.*
***Амальгамарня — прадпрыемства, дзе з руды здабываюць серабро або золата спосабам амальгамацыі, заснаваным на ўласцівасці серабра і золата рашчыняцца ў ртуці.*

чаны дослед. На наступных уроках, выкарыстоўваючы такі ж самы наглядны метад, вучні знаёміліся з вадародам, азотам, хлорам, вугляродам. Настаўнік стараўся, каб вучні зразумелі, што праз асаблівыя ўласцівасці хімічных элементаў і ўтварыўся разнастайны свет мінералаў.

У праграму заняткаў па мінералогіі былі ўключаны тэмы: уласцівасці мінералаў, крышталяграфія, металічныя субстанцыі, солі. Дон Ігнасіё знаёміў вучняў і з асновамі геалогіі: апісаннем скалаў, іх паходжаннем, распаўсюджаннем і ўзростам*. Ён вадзіў вучняў на экскурсіі ў ваколіцы Какімба, дзе вучыў назіральнасці, расказваў пра будову валуноў. Тады ніхто ў Чылі не праводзіў такіх практычных заняткаў. Хаіме Поса, цяперашні рэктар універсітэта ў Ла-Серэна (універсітэт стаўся пераемнікам згаданага калегіюма), адзначаючы Дамейкава наватарства, сцвярджае, што ягоныя ўрокі ды экскурсіі не толькі вучылі назіраць і думаць, але спрыялі развіццю інтэлекту і асобы вучняў**. Менавіта Дамейка заснаваў калекцыю мінералаў гэтага ўніверсітэта, якая налічвае цяпер 2400 экспанатаў.

Расказваючы пра серку, Дамейка вучыў, як трэба выкарыстоўваць багатыя на гэты мінерал чылійскія сальфатары, як ачышчаць серку і якую можна мець карысць з гэтага дару грозных вулканаў. Ён не забыўся расказаць і пра метады распрацоўкі пакладаў салетры, яе ачышчэння ды выкарыстання, пра здабычу солі з марской вады, пра выпальванне вапны.

Найбольш заняткаў новы настаўнік прысвяціў той частцы курса хіміі, дзе разглядаліся ўласцівасці металаў, руды якіх складаюць галоўнае багацце Чылі. На ўроках Дамейка даваў кожнаму вучню ў рукі кавалкі руды, якія ён сам назбіраў на сваёй першай экскурсіі. Настаўнік не толькі расказваў пра іх знаходжанне ў

---

* *Ryn Z. J. Ignacy Domeyko obywatel świata. S. 226.*

** *Pozo J. Ignacio Domeyko — docente y científico // Polskie Towarzystwo mineralogiczne. Prace specjalne. Zeszyt 21. Kraków, 2002. S. 144.*

прыродзе, але і паказваў, як трэба выконваць прасцейшыя пробы з дапамогай кіслінаў. Старэйшым ды больш здольным вучням Дамейка прапаноўваў авалодаць больш складанымі метадамі прабавання рудаў.

Такія дадатковыя заняткі паглыналі шмат часу, патрабавалі лішняга клопату, але наш зямляк ахвотна вучыў прагных да ведаў вучняў, заседжваючыся з імі ў лабараторыі да ночы. Здарыўся нават неспадзяваны выпадак. Аднаго разу позна ўвечары інтэндант правінцыі ішоў каля лабараторыі ды згледзеў у памяшканні агонь. Ён падумаў, што, можа, хтось падпаліў будынак, і кінуўся туды, але, убачыўшы настаўніка з вучнямі за працай, здзівіўся ды голасна прывітаўся з Дамейкам. Ягоны вокліч спалохаў прыручанага гуанака*, які ў цішы лабараторыі спакойна прыглядаўся да людской працы. Звер скочыў цераз стол, перакуліў коўбы — сапсаваў дослед. Але што было рабіць — пажартавалі, пасмяяліся ды пачалі ўсё нанова.

24 студзеня 1840 года на чарговы публічны экзамен прыйшлі не толькі бацькі вучняў. Прывабленыя розгаласам пра калегіюм, дзе пачалі вывучаць новую навуку, у Какімба з'ехаліся ўладальнікі капальняў і рудняў. Дамейкавы вучні не падвялі свайго настаўніка, паказалі веданне шмат якіх рудаў і мінералаў, спосабаў прабавання руды, выплаўленых медзі, серабра ды кобальту, нікелю, пра якія госці калегіюма ніколі не чулі. Усе пераканаліся, што дзеці вывучаюць мінералогію, што грошы патрачаныя не дарма.

Можна меркаваць, што ўжо тады Дамейка пачаў рыхтаваць на гішпанскай мове свой падручнік "Заняткі для навучання хіміі, фізіцы і мінералогіі ў калегіюме Какімба", які быў надрукаваны ў 1841 годзе ў суседнім з Какімба мястэчку Ла-Серэна.

---

* *Гуанака — паўднёваамерыканская жывёліна з роду ламаў, мае каштоўную поўсць. "Лагодны звер з тонкай шыяй і прыгожымі вачыма, не большы за нашага аленя", — так яго апісвае Ігнат Дамейка ў сваім дзённіку.*

# “НА НЁМНАВЫМ ПЛЫЦЕ”

*Першае падарожжа * Пустыня, дзе вольна думаецца * Ракавіны * Сын роднай пушчы * “На нёмнавым плыце” * Капальні Карысаль і Чаньярсільё * Як знаходзяць радовішчы*

29 студзеня 1840 года, праз чатыры дні пасля ўдалага публічнага экзамену, Дамейка выбраўся ў далёкае падарожжа на поўнач да славутых радовішчаў серабра ў Чаньярсільё, што на мяжы пустыні Атакама. Ніхто не раіў Дамейку ехаць туды па сушы. І як было не баяцца гэтай дарогі. На ўсім тым прасторы населена толькі адна вузкая даліна Ўаска, якая пераразае край ад Андаў да мора, а рэшта абшару не мае расліннасці – сапраўдная камяністая пустыня. Толькі ў вялікай патрэбе, казалі яму, хто-небудзь адважваўся ехаць гэтай дарогай, а найчасцей падарожнічалі морам. Але Дамейку не палохаў пустынны край. Наадварот, яго вабіла невядомая стыхія. Там, куды, магчыма, яшчэ не траплялі навукоўцы, заўсёды можна ўбачыць штосьці новае. Што праўда, з такога падарожжа можна было і не вярнуцца, бо, увогуле, як пераканаўся сам Ігнат, у пустыні гэтак жа “лёгка заблудзіцца, як у Белавежскай пушчы”.

Ужо першыя назіранні, мінералы, узоры сярэбранай руды, сабраныя ў наваколлі Какімба, пераконвалі, што незвычайная разнастайнасць прыродных багаццяў Чылі яшчэ як след не ацэненая. І толькі экспедыцыі, толькі пошукі і даследванні маглі даць багаты плён. Да таго ж новыя паездкі былі каталізатарам думкі, будзілі ўяўленне – пачынаўся новы, невядомы раней творчы ўздым. Яшчэ па дарозе ў Чаньярсільё, назіраючы ў дэпартаментах Уаска і Кап’япо мноства разнастайных узвышшаў, гор, яроў, каньёнаў, далінаў

рэк, Ігнат адважыўся падумаць пра складанне веліч-най мазаікі геалагічнай будовы чылійскіх гор.

"Можа хто і падумае, што сыну ліцьвінскіх лугоў і гаёў, мабыць, непрыемна тут знаходзіцца, не хочацца аглядаць і апісваць пустыню. Аднак жа і пустыні створаны той самай Божай рукою, што і нашыя гаі ды квяцістыя палеткі. Не дзіва, што і пустыня, якою ехаў, чымсьці зачароўвала, бо мела сваю прывабнасць, веліч і маляўнічасць"*.

У Дамейкавым дзённіку знаходзім канкрэтную згадку пра творчае прасвятленне і ўздым. Дамейка заўважыў, што ў пустыні нішто не замінала яму засяроджвацца, бо ў моры пяску не траплялiся нават кактусы, не відаць было і палахлівых яшчарак. Ён бачыў толькі "вялікія масы матэрыі, нібыта падрыхтаванай на будоўлю новых светаў" ды яшчэ ўяўляў бясконцасць сусветаў — над сабой. Ігнат забываўся на ўсе дробязі і нягоды гэтага свету. Ягоныя думкі ляцелі далёка. Праз два гады Дамейка надрукаваў у Сант'яга артыкул "Экскурсія ў Кардыльеры Кап'япо з кароткім апісаннем фундаментальных прынцыпаў геалогіі Чылі". Так пачала ажыццяўляцца задума, народжаная ў пустыні, дзе "нішто не зваблівала думак".

На той шырокай, як вокам кінуць, засыпанай пяском раўніне, дзе-нідзе велічна ўзвышаліся велізарныя ўчарнелыя гранітныя горы. На іх заходніх схілах свяціліся жоўтыя гурбы такога ж, што і на раўніне, жоўтага пяску, нанесенага парыўнымі вятрамі з мора.

Сонца пякло неміласэрна, раз-пораз з'яўляліся міражы. У моры пяску гублялася дарога. Яна была амаль нябачная, засыпаная пяском, які ўвесь час курыўся. Дамейку ў нейкі момант, мабыць ад спякоты, замарочылася галава, прымроілася, што ён едзе зімовай дарогай і яе замятае мяцеліца. Не выпадкова яшчэ ў Какімба дона Ігнасіё папярэджвалі, што падарожным здараецца заблудзіцца. Яны блукаюць два ці тры дні — здыхаюць ад спякоты ды прагі мулы і коні. Але праваднік ехаў упэўнена, ён арыентаваўся на вя-

*_Дамейка І. Мае падарожжы. С. 224._

домыя яму скалы і адметнай формы горныя вяршыні.

Трапілася па дарозе і мясціна, якую назвалі Тэмблёрэс, гэта значыць землятрусы. Усё пляскатае ўзвышша было ўсыпана кавалкамі скалаў, нібы страшэнны землятрус зруйнаваў старыя горы. Такіх руінаў Дамейка яшчэ не бачыў, але яго чакалі і больш жудасныя сляды катаклізмаў.

Падарожнікі ехалі яшчэ паўдня, спусціліся з узвышша, і перад імі адкрыўся дол высахлай ракі — шырокая даліна Дэ-лос-Чорас. Дробны, спрасаваны, нібы спечаны, пясок гэтага былога рэчышча адбіваў сонечныя промні. Яны сляпілі падарожных невыносным бліскам: немагчыма было ехаць. Дамейка скіраваў да берага, да хваляў, што пырскалі на коней белай пенай. І яны наўскапыта праімчаліся праз гэтую даліну.

Дарога пайшла ад берага ўправа. На ёй валяліся ракавіны, нібы ўчора выкінутыя з мора. Дамейка перш падумаў, што сюды іх прынеслі птушкі. Неўзабаве падарожнікі апынуліся на вышэйшым, метраў на сто ўзнятым над роўнем мора, пляскатым узвышшы, усыпаным рэшткамі гэтакіх жа ракавін. Ігнат зразумеў, што дарога ішла па вапнавых адкладах, відавочна, зусім нядаўна, калі зважаць на мільёны гадоў гісторыі Зямлі, паднятых з дна мора. Гэта пераканала яго, што чылійскі бераг, хоць і павольна, увесь час уздымаецца.

На змярканні прыехалі нарэшце да той сядзібы, дзе праваднік спадзяваўся знайсці зялёнай люцэрны і вады для коней. "Там быў гасцінны гаспадар, кароткая вячэра і простая пасцель. Сон падарожніка не даў сябе доўга ўпрошваць ні чакаць". А наступны дзень падараваў Дамейку неспадзяваную сустрэчу.

«31 студзеня. Пачынала днець за Андамі, калі мы селі на коней. Раніца была прыгожая, і хоць не чуваць і не відаць было птушак, не было раслінаў, ані расы, бо і раса не любіць пяску і скалаў, штосьці прысутнічала ў паветры, што нагадвала нашыя раніцы, што ажыўляла, асвяжала розум. Я, хоць і невясёлы, адчуваў сябе дужым.

Пырхалі коні. Я ехаў павольна, моўчкі, паглядаючы на блакітнае неба, бо не было на што глядзець на зямлі; мой арыера* і слуга ехалі нібы сонныя. Не было канца пустыні.

Калі раптам нібы разарвалася сухая раўніна, па якой ехаў, — я апынуўся на краі глыбокага вузкага яра, усё дно якога было ўсланае зялёным дзірваном і аздобленае вялізнымі букетамі фігавых дрэваў, а паміж імі бялела некалькі дамоў. Па стромай сцежцы мы спусціліся да аднаго з іх. У двары парабак абчэсваў бервяно. Мы прыпыніліся ў цяньку духмяных, разложыстых фігавых дрэваў, каб астудзіцца свежымі першымі іх пладамі — брэвас. І ў той жа момант я ўчуў нейкі водар, добра знаёмы, родны мне, мілы, і спачатку не мог здагадацца, што гэта магло быць. Я падышоў да таго бервяна і — быў зачараваны водарам нашай баравой жывіцы: пазнаў, што гэта была хвойка добрага гатунку, як тыя, што з нашых лясоў плытагоны гоняць у Каралявец. Я запытаўся ў парабка, адкуль гэтае бервяно, а ён адказаў мне, што летась разбіўся "на наша шчасце" тут непадалёку нейкі нямецкі карабель, а можа ангельскі — "quien sabe?" — хто ведае? — і яны маюць дастаткова драўніны амаль дарма. Хто ведае? — падумаў я, — гэтае бервяно, магчыма, сын нашай Белавежскай ці Калдычэўскай пушчы, дзіўным лёсам, як і я, выкінуты ў гэтую заморскую пустыню».

З зялёнага аазіса падарожнікі зноў выехалі на пясчанае пласкагор'е, узнятае на некалькі дзесяткаў футаў над роўнем мора, і Дамейка затрымаўся, каб яшчэ раз кінуць развітальны позірк на той яр і схаваную ў яго глыбіні сядзібу. Тут ягоную ўвагу прыцягнулі тры роўні адкладаў, што выразна выдзяляліся на стромых схілах гэтага яра. Яны паўтараліся на абодвух ягоных баках нібы гіганцкія прыступкі.

З-пад краю кожнай "прыступкі" былі відаць пласты белых ракавін, гэтак добра захаваных, што здава-

**Арыера — праваднік.*

лася, нібыта гулкія хвалі толькі ўчора выкінулі іх на бераг. «Гледзячы на гэтыя бясспрэчныя манументы дапатопных зямных катаклізмаў той эпохі, якую геолагі называюць палеагенам, я стаяў, як укапаны, і конь мой быў спакойны. Ужо здавалася мне, што я адчуваю, як гэты мацярык уздымаецца, і я стаю нібы на нёмнавым плыце, — калі нецярплівы арыера крануў мяне і сказаў: "Senor! Vamos" (Пане! Едзем!)». Ім трэба было спяшацца, каб завідна даехаць да начлегу, дзе б коням была і вада, і трава.

Дамейка не мог абмінуць медныя капальні Карысаль — найбуйнейшыя ў свеце. Сярод бязмежнай пустыні ён убачыў гару, з якой тысячы рудакопаў, што як краты рыліся пад зямлёй, здабывалі тоны меднай руды. Відовішча звонку было даволі сумным: вялізныя кучы камення, высокія курганы пустой пароды з пірытам, што блішчыць нібы золата; сям-там кузні, бедныя хаціны, сплеценыя з чароту, дзе-нідзе бялее больш прыстойны дамок. І ўсюды вялікія норы ў скале. Туды бесперапынна ўлазілі і адтуль вылазілі работнікі — напалову голыя, чырванаскурыя, з пунсовымі шапачкамі, скуранымі фартухамі, падпяразаныя чорнымі рамянямі. Яны неслі на плячах вялізныя кашы здабытай горнай пароды і высыпалі яе паблізу. Падлеткі і малыя хлопцы малаткамі разбівалі пароду, аддзяляючы медную руду ад кавалкаў скалы.

Увесь дзень, ад восьмай раніцы да пятай апоўдні, Дамейка лазіў па штольнях, сходзячы па кручах і драбінах, не падобных на лесвіцы еўрапейскіх шахтаў. То былі звычайныя бярвёны некалькі цаляў таўшчынёю, нават не абчасаныя, у якіх высечаны невялікія прыступкі, куды можна ўціснуць толькі пальцы нагі. Аднак жа апіры даволі хутка сходзілі па гэтых драбінах — на 150 ці 200 метраў уніз, і ўжо не так хутка ўздымаліся ўгару, несучы цяжкія кашы руды.

Дамейку, калі ён спусціўся па тых мокрых ад вады сходах на 150—200 метраў пад зямлю, сумна было глядзець на цяжкую працу шахцёраў-барэтараў. У чорнай пячоры пры слабым святле лоевай свечкі ўчарнелы,

спацелы работнік, трымаючы ў левай руцэ тоўсты, кароткі лом, ужо ўбіты на пару цаляў у скалу, што моцы вялізным молатам біў па ім так, што скала ўздрыгвала. У выбітую адтуліну сыпаў порах, клаў кнот з порахам, замазваў яе глінай з пяском ды ад канца кнота высыпаў на зямлі тоненькую, некалькі крокаў даўжынёй, сцежку з пораху. Потым, нагледзеўшы месца для схованкі, запальваў порах і ўцякаў. Гучаў выбух, вылятаді клубы дыму, скала крышылася.

26 лютага Дамейка даехаў да багатых на серабро капальняў Чаньярсільё, што знаходзяцца на вышыні 1200 метраў над роўнем мора, на цудоўнай гары. Там штогод здабывалі каля ста тысяч фунтаў серабра. Як падлічыў госць, — на два мільёны рублёў серабром.

У Ча́ньярсільё Дамейку расказалі, што гадоў з дваццаць таму адна пастушка-індзіянка Флёрэс знайшла на гэтай гары кавалак самароднага серабра, але нікому не сказала пра сваё адкрыццё. За некалькі міляў ад яе дома жыў сеньёр Гало, які доўга, але безвынікова шукаў радовішча серабра. Флёрэс, каб аддзячыць яму за нейкую паслугу, сказала па сакрэце: “Я пакажу табе месца на высокай гары, дзе знойдзеш столькі серабра, колькі пажадаеш”. Гало давяраў толькі свайму ўмельству і не спакусіўся. Праз гадоў дзесяць сын тае жанчыны адпачываў аднаго разу на той гары і, угледзеўшы на паверхні нешта незвычайнае, пачаў скрэбці нажом. Здзівіла яго, што скала ў гэтым месцы рэзалася як сыр.

Хлопец паімчаў да сеньёра Гало, каб папытацца, што гэта можа быць. А той успомніў колішні расказ Флёрэс. Яны адразу ж паехалі туды і выявілі радовішча, з якога неўзабаве здабылі чатырнаццаць цэнтнераў серабра ды сталі гаспадарамі найбагацейшай капальні.

# “АПОШНІЯ” ГАДЫ

*Як рабіць пробы * Калідорная навука * Практыка ў капальнях * Знаёмства з міністрамі і прэзідэнтам * Што такое пуна? * Вучні паедуць у Парыж * Падручнікі * Падарожжа з вучнямі * Дамейкіт*

Падарожжа ў Чаньярсільё прынесла карысць і Дамейкавым вучням, бо ён прывёз адтуль багата мінералаў, якія выкарыстаў на ўроках. На занятках па геалогіі асноўную ўвагу аддаваў вывучэнню радовішчаў, формаў руданосных жылаў, а таксама пакладаў каменнага вугалю. Неабходна было растлумачыць школьнікам і асновы падземнага вымярэння.

Акцэнт быў на практычнае выкарыстанне новых ведаў. На ўроках мінералогіі настаўнік даваў кожнаму вучню ўзоры мінералаў, звяртаў увагу на крышталёвы склад, з дапамогай прыладаў і рэактываў рабіў простыя пробы, якія перш паўтаралі самыя здольныя. Мінералы выбіраў тыя, ведаць якія неабходна кожнаму чылійскаму горнаму інжынеру. А іх хапала, бо апроч сабранай Дамейкам калекцыі, у калегіюм адусюль прывозілі руду і прасілі дона Ігнасіё выканаць пробы, каб вызначыць яе вартасць.

Дарэчы, у правінцыі Какімба да прыезду Дамейкі такія пробы не рабілі, хоць тут былі даволі развітыя горнарудная прамысловасць і гандаль меддзю. Вызначэннем колькасці металу ў рудзе займаўся які-небудзь стары дасведчаны рудакоп, які звычайна разам з кавалём плавіў медную руду, змешваючы яе з вінным каменем. Ведаў таямніцы прабавання адзін амэрыканец, які скупляў руду, але ні з кім сакрэтамі не дзяліўся. Уладальнікі капальняў прадавалі руду, не ведаючы яе вартасці. Дамейка, каб даказаць карысць прабавання, бясплатна рабіў пробы. Такім чынам ён пера-

конваў уладальнікаў капальняў і рудняў у неабходнасці прафесіі майстра прабавання.

Цягам усяго 1840 навучальнага года вучні практыкаваліся рабіць пробы, а найбольш здольныя спасціглі нават метады хімічнага аналізу. Для іх Дамейка ладзіў увечары лекцыі па аналітычнай хіміі. На дадатковыя заняткі наш зямляк не шкадаваў часу, бо бачыў, што яго праца прыносіць плён. Прысутныя на чарговым аглядзе ў студзені 1841 года дзівіліся ўмельству вучняў. Шахтаўладальнік Карлас Лямбэрт, які калісьці намовіў Ігната Дамейку прыехаць у Какімба, сказаў, што нават студэнты Парыжскай Горнай школы менш ведаюць. Госці панеслі ў свае мясціны вестку пра высокія веды вучняў какімбаўскага калегіюма.

Аўтарытэту выкладчыка з Какімба спрыялі і асабістыя рысы ягонага характару. Дамейка наладзіў добрыя стасункі з уладальнікамі некаторых капальняў, плавільняў. Без такіх знаёмстваў наш зямляк не трапіў бы не толькі на тую "гару, з якой штогод сыплецца два мільёны рублёў серабром", але і ў іншыя куткі Чылі, бо абшарнікі не заўсёды дазвалялі даследваць нетры іх уладанняў. Дона Ігнасіё ж усюды прымалі зычліва. І экспедыцыі, якія ён ладзіў, былі паспяховыя. За кароткі час Дамейка сабраў дастаткова матэрыялаў для грунтоўнага аналізу прыродных багаццяў чылійскіх гор. Дзяржава была зацікаўленая ў ягоных даследваннях, бо іх вынікі спрыялі развіццю прамысловасці. Новыя радовішчы давалі Чылі вялікія прыбыткі.

На канікулы 1841 года Дамейка запланаваў падарожжа на поўдзень. Асабліва яго цікавіла мясціна Пунітакі з радовішчамі золата, медзі, ртуці. Яшчэ ў 1806 годзе гішпанскі інжынер адкрыў там у гранітнай гары 27 жылаў ртутнай руды. Дамейка, калі прыехаў, убачыў тую гару прадзіраўленай у многіх месцах. Яму расказалі, як нейкі немец навучыў мясцовых жыхароў здабываць ртуць настолькі простым спосабам, што гэтым займаліся нават жанчыны. Пазней там з'явіўся вучоны-гішпанец, пабудаваў з ангельскай цэглы новую печ і, насміхаючыся з такога дзедаўскага спосабу,

паказваў Дамейку найноўшы жалезны апарат. Вядома, утварылася кампанія, кошт акцыяў рос... Не прайшоў і год, як пражавелі жалезныя трубы і ёмістасці, акцыянеры сталі банкрутамі. Налета Дамейка ўбачыў там толькі козаў, якія скакалі па разваленай печы.

У Пупіда, дзе была медная рудня, ён усю ноч назіраў металургічны працэс. "У адной печы пражылі руду, у другой вытаплялі медзь; я толькі і глядзеў, што яны робяць, ды час ад часу зазіраў у печ. Назаўтра не мог ні на што глянуць: вочы былі чырвоныя..."

З новымі ўражаннямі, ведамі пра чылійскія капальні і рудні пачаў Дамейка новы навучальны, 1841 год. З кагорты першых вучняў вучобу прадоўжылі трынаццаць, і для іх настаўнік падрыхтаваў больш грунтоўны курс хіміі, куды ўлучыў і тэорыю. Але трэба было навучыць шкаляроў рабіць разнастайныя вымярэнні непасрэдна ў шахтах. І Дамейка мусіў выкладаць хоць бы асновы нарыснай геаметрыі, пра якую вучні не мелі ўяўлення.

Ён прыдумаў, як зрабіць навучанне больш наглядным, каб вучні спасціглі гэтую навуку. Дзівіліся і калегі, і вучні, калі ўбачылі, як настаўнік мінералогіі забівае ў сцены і бэлькі калідора цвікі, прывязвае да іх шнуры і нацягвае ў розных кірунках. Такім спосабам Дамейка вырашыў даць сваім вучням перш уяўленне пра шахту, дзе бывае некалькі штольняў, а таксама гарызантальных, нахільных і вертыкальных галерэяў, хадоў, кірунак якіх мелі паказваць шнуры. Урэшце заняткі перанеслі ў калідор.

Такім чынам Дамейка выразна паказваў, што такое праекцыя, тлумачыў, як складаць план штольняў і галерэяў. Вядома, ён перш сам крэсліў планы: гарызантальны — на падлозе, а вертыкальны — на сцяне калідора. І вучні, якія амаль не ведалі геаметрыі, лёгка авалодвалі практычным спосабам дакладнага вымярэння ды рысавання планаў. Кожны вучань павінен быў нарысаваць сама меней тры планы па-рознаму нацягнутых шнуроў — уяўных шахтаў — ды запісаць табліцамі вынікі вымярэнняў і падлікаў, а пасля з іх

дапамогай развязваць больш складаныя задачы. (Пасля вучні авалодалі і больш дакладнымі метадамі.)

Дамейка хацеў, каб вучні паспрабавалі выкарыстаць свае веды непасрэдна ў шахце. Ён даведаўся, што ў адной меднай капальні рудакопы прасякалі галерэю, якая павінна была злучыць дзве падземныя выпрацоўкі, але не маглі вызначыць належны кірунак. Каб патрапіць у патрэбны пункт, шахцёры проста капалі галерэю — безвынікова. А гаспадару капальні даводзілася плаціць за іх працу. Дамейка пераканаў яго дазволіць вучням вызначыць правільны кірунак. Смяяліся рудакопы, гледзячы, як шкаляры з рыштункам няўклюдна спускаюцца ў шахту, як мераюць і запісваюць вымярэнні.

Праз два тыдні тыя вучні зноў спусціліся ў шахту з нарысаваным планам і паказалі патрэбны кірунак, вызначыўшы, пад якім кутом весці галерэю. Не прайшло і месяца, як паводле плана прасеклі праход, і гэтак дакладна, "што ні на дэцыметр не памыліліся".

Пра гэты выпадак гаварылі не толькі на чарговым аглядзе ў Какімба, але і ў сталіцы. Там даўно ўжо ацанілі кваліфікацыю какімбаўскага настаўніка: не выпадкова ў жніўні 1841 года прэзідэнт Чылі Хаакін Прэта прызначыў дона Ігнасіё Дамейку-Анцуту* экспертам капальняў правінцыі Какімба**.

Таго ж году Ігната зацікавіла прапанова адной сталічнай кампаніі, заснаванай дзеля пошукаў новых радовішчаў у Кардыльерах правінцыі Сант'яга. І ён распрацаваў практычны план працы экспедыцыі, а кіраваць згадзіўся задарма: яго даўно вабілі мясціны Паўднёвых Кардыльераў.

У першы дзень канікулаў Дамейка выправіў рудакопаў конна, а сам 5 студзеня 1842 года паплыў на параходзе ў Вальпараіса, адтуль паехаў у Сант'яга. Там дон Ігнасіё пазнаёміўся з некаторымі міністрамі і генералам Бульнесам — новым чылійскім прэзідэнтам.

---

**Дамейка-Анцута — паводле чылійскай традыцыі, чалавеку надаецца не толькі бацькава, але і матчына прозвішча.*

***Ryn Z. J. Ignacy Domeyko obywatel świata. S. 228.*

Той распытаў какімбаўскага настаўніка пра ягоную Бацькаўшчыну, пра гарнарудныя справы, гаварылі пра калегіюм, гаспадарку і экспедыцыю ў Кардыльеры.

З міністрам адукацыі Мануэлем Монтам, заўзятым асветнікам, яны абмяркоўвалі неабходнасць заснoўваць новыя школы, забеспячэнне іх добрымі падручнікамі. Міністр паабяцаў пераканаць урад паслаць трох Дамейкавых вучняў на вучобу ў эўрапейскія ўніверсітэты. Пра папулярнасць і аўтарытэт Дамейкі ў той час, на чацвертым годзе ягонага жыцця ў Чылі, выразна сведчыць яшчэ адна аўдыенцыя: Дамейка быў запрошаны на абед да дэпутата ад апазіцыйнай ліберальнай партыі. Там гаварылі пра тое, што трэба зрабіць, "каб паставіць краіну на эўрапейскі ровень, каб яна багацела, каб пашыраць асвету".

Цікава было Ігнату ў Сант'яга, але карцела хутчэй імчацца ў Кардыльеры. 17 студзеня ён нарэшце выехаў з сталіцы.

Дамейку забяспечылі правіянтам, патрэбным рыштункам ды ўрадавымі лістамі, а прэзідэнт прыслаў узброенага сяржанта — каб здалёк было відаць, што гэтую экспедыцыю наладзіў урад. Такая перасцярога не была лішняй. Дамейка пераканаўся, што не зважаючы на ўрадавыя лісты абшарнікі не дазваляюць шукаць радовішчы на сваёй зямлі. Аканом маёнтка, гаспадыня якога дала Дамейку рэкамендацыйны ліст, прызначыў праваднікоў, якія наўмысна павялі падарожных, мулаў з пакламжай і коней праз горную раку ўброд. Калі яны адышлі ад берага, адну муліцу падхапіла плынь і яе, кінуўшы ласа, ледзь выцягнулі з ракі, але не ўдалося ўратаваць паклажу з палаткай. На шчасце, Дамейка выпадкова трапіў у маёнтак, адміністратар якога параіў адмовіцца ад паслуг тых праваднікоў, а сам выправіў за праваднікa свайго пастуха, які ведаў Кардыльеры, "як пацеры".

Шэсцьдзесят дзён працаваў наш суайчыннік у дзікіх, непрыступных гарах, даходзячы да вечных ільдоў, пакутуючы ад прыступаў хваробы, якую рудакопы называюць пуна. У яго раптоўна слабела цела, кружы-

лася галава, пачыналася задышка, сохла ў горле, нудзіла, цягнула на ваніты. Дамейка ў дзённіку зазначыў, што дарма гэтую хваробу прыпісваюць уздзеянню разрэджанага паветра, бо і на вышэйшых вяршынях Андаў ён адчуваў сябе лепей. Паводле рудакопаў, пуна пануе там, дзе шмат сярэбранай і алавянай руды. Тады яшчэ не ведалі пра ўранавыя руды, пра ўплыў радыеактыўнага выпраменьвання. А хвароба пуна магла быць вынікам менавіта такога ўздзеяння. Праваднік жа ведаў, што ў такіх мясцінах шкодзіць нават вада, перасцерагаў асмяглых рудакопаў, каб не глыталі снег, бо адразу ж пачне балець страўнік і пачнецца пуна. А яшчэ Дамейка запісаў у дзённік, што "жывой душы не было ў тым бязлюдным месцы, нават грыфы і арлы не далятал...".

У тых гарах настаўнік з Какімба адкрыў новыя паклады вугалю, багатае радовішча медзі, дзе, як сведчыць былы пасол Польшчы ў Чылі прафесар Здзіслаў Ян Рын (ён даследваў жыццё і дзейнасць нашага суайчынніка), медную руду здабываюць і цяпер.

Дамейка склаў план дзейнасці для той кампаніі, прапануючы адразу ж пачаць распрацоўку радовішчаў. Сабе ж ён пакінуў узоры багатых рудаў, занатаваў шмат цікавых геалагічных назіранняў з некалькіх каньёнаў ды патухлага вулкана Сан-Хасэ.

Прыемная навіна чакала какімбаўскага настаўніка ў Сант'яга. Міністр асветы абвясціў, што ўрад Чылі вышле на тры гады ў Парыжскую Горную школу на вучобу трох ягоных лепшых вучняў, якіх ён сам прапануе. Пасля хтосьз іх заменіць настаўніка, калі тэрмін дамовы скончыцца і Дамейка пажадае выехаць з Чылі. А яшчэ ўрад прызначыў 2000 піястраў дзеля закупкі невялікіх лабараторыяў прабавання ды рыштунку для тых вучняў Какімбаўскага калегіюма, якія па заканчэнні курсу хіміі ды мінералогіі здолеюць выконваць такія паслугі для шахтаў і рудняў.

Урад Рэспублікі Чылі вырашыў надрукаваць Дамейкавы падручнікі "Трактат аб прабаванні" ды "Асновы мінералогіі". У 1841 годзе ў суседнім з Какімба



Ігнат Дамейка ў маладосці. Парыж, 1833 г.



Маёнтак Жыбуртоўшчына каля г. Дзятлава. Тут, у доме зяця Лявона Дамейкі і дачкі Аніты, з 16 жніўня 1884 года да 20 жніўня 1888 года (з выняткам часу кароткіх выездаў) жыў Ігнат Дамейка




Схема маршрутаў падарожжаў Ігната Дамейкі ў ваколіцах горадоў Ла-Серэна і Какімба (яны знаходзяцца побач, на беразе адной затокі) і на поўдзень. 1838 год — першая экскурсія ў капальні срэбра ў Аркуэрас. 1841 год — падарожжа ў Сант'яга і даліну ракі Майпо з наведваннем капальняў золата, медзі і срэбра ў Пунітакі. 1846 год — падарожжа ў Кардыльеры. (Паводле дзённікаў Ігната Дамейкі і кнігі ягонай праўнучкі: Domeyko Lea-Plaza Paz. Ignacio Domeyko. La vida de un emigrante (1802 — 1889). Santiago, 2002)




Схема маршрутаў падарожжаў на поўнач Чылі. 1840 год — падарожжа праз буйнейшыя ў свеце капальні медзі Карысаль, праз горад Кап'япо ў капальні срэбра Чаньярсільё. 1844 год — падарожжа ў рэгіён Кап'япо і далей у Кардыльеры, на перавал Паса Коме Кабальё. Па дарозе Дамейка наведаў капальні срэбра ў Сан-Антоніё, дзе знайшоў два новыя мінералы, адзін з якіх пазней назвалі дамейкітам. (Паводле дзённікаў Ігната Дамейкі і кнігі ягонай праўнучкі: Domeyko Lea-Plaza Paz. Ignacio Domeyko. La vida de un emigrante (1802 — 1889). Santiago, 2002)



N°: 359 (5) — N°. d'Entrée: 476.

TRATADO

DE ENSAYES,

TANTO POR LA VIA SECA COMO POR LA VIA HUMEDA,

de 359 (5)

Toda clase de minerales y pastas de cobre, plomo, plata, oro, mercurio &c.; con descripcion de los caracteres de los principales minerales y productos de las artes en America, y en particular en Chile.

por

IGNACIO DOMEYKO, MIEMBRO DE LA UNIVERSIDAD DE CHILE, PROFESOR DE QUÍMICA EN EL COLEJIO DE COQUIMBO.

ECOLE ROYALE DES MINES

Serena.

IMPRENTA EEL COLEJIO.

1844.

Першае выданне
«Трактата аб праберстве»
Ігната Дамейкі
(Ла-Серэна, 1844 г.)



N°. d'Entrée: 476.

ELEMENTOS

DE

MINERALOGIA,

POR

IGNACIO DOMEYKO,

MIEMBRO DE LA UNIVERSIDAD DE CHILE; PROFESOR DE QUÍMICA Y MINERALOGIA EN EL COLEGIO DE COQUIMBO

Serena,

IMPRENTA DEL COLEGIO.

— 1845 —

Першае выданне
падручніка Ігната Дамейкі
«Мінералогія»
(Ла-Серэна, 1845 г.)



Правадыр араўканаў
у бітве з канкістадорамі.
Скульптура Нікарона
Пласа



Араўканка
ў нацыянальным строі



Энрыкета Сатамаёр, жонка Ігната Дамейкі



Дзеці Ігната Дамейкі: Казімір, Аніта і Гернан



Ігнат Дамейка з сынамі



Прыстасаванне для загрузкі руды сэрэдзіны XIX стагоддзя
на адной з капальняў у Кап'япо



Linderos de Domeyko («Капцы Дамейкі») у Чаньярсільё — межавыя знакі, якія наш зямляк загадаў «мураваць з каменняў і вапны» дзеля размежавання суседніх уладанняў, — цяпер ужо помнікі



TRATADO DE ENSAYES,

TANTO

POR LA VIA SECA COMO POR LA VIA HUMEDA,

De toda clase de minerales i pastas de cobre, plomo, plata, oro, mercurio, etc.; con descripcion de los caractéres de los principales minerales i productos de las artes en America, i en particular de Chile.

Por Ignacio Dómeyko,

MIEMBRO DE LA UNIVERSIDAD DE CHILE: PROFESOR DE QUÍMICA.

a l'Ecole Nationale des Mines de Paris hommage de son ancien élève I. Domeyko

TERCERA EDICION, AUMENTADA I CORREJIDA

8102



Santiago de Chile.

IMPRENTA NACIONAL, CALLE DE LA MONEDA, NUM. 46.

— 1873 —

Трэцяе выданне «Трактата аб праберстве» Ігната Дамейкі (Сант'яга дэ Чылі, 1873 г.) з дарчым надпісам Парыжскай Горнай школе



ESTUDIO

SOBRE

LAS AGUAS MINERALES

DE CHILE.

POR

DON IGNACIO DOMEYKO,

Rector de la Universidad.

Santiago

IMPRENTA NACIONAL, CALLE DE LA MONEDA N.º 46

—1871—

Манаграфія Ігната Дамейкі «Даследванне мінералаў Чылі» (Сант'яга, 1871 г.)



ENSAYE

SOBRE

LOS DEPÓSITOS METALÍFEROS

DE CHILE

CON RELACION A SU JEOLOJIA I CONFIGURACION ESTERIOR.

MEMORIA

ESCRITA A OCASION DE LA ESPOSICION INTERNACIONAL CHILENA EN 1875, POR EL PRESIDENTE DE LA SECCION DE MATERIAS PRIMAS DE ESTA ESPOSICION,

Don Ignacio Domeyko.

SANTIAGO

IMPRENTA NACIONAL, CALLE DE LA MONEDA, NUM 46

—1876.—

Апісанне калекцыі мінералаў Чылі, выкананае Ігнатам Дамейкам для міжнароднай выставы 1875 года



Дом Ігната Дамейкі ў Сант'яга




Універсітэт горада Ла-Серэна, корпус імя Ігната Дамейкі. Каля дзвярэй стаяць пасол Польшчы ў Чылі Здзіслаў Ян Рын з жонкай Гражынай (1991 г.)




Мемарыяльная дошка на будынку інжынернага факультэта ўніверсітэта горада Ла-Серэна. Тут у 1838 годзе ў калегіюме Ігнат Дамейка выкладаў мінералогію

Чылійскі ўніверсітэт у Сант'яга, галоўны корпус





Калекцыя мінералаў Ігната Дамейкі і ягонага сына Казіміра ды гравюра з выявай будынкаў Віленскага ўніверсітэта ў доме Ігната Дамейкі



Пакой у доме Ігната Дамейкі ў Сант'яга на вуліцы Куэта



Партрэт Ігната Дамейкі ў геалагічным музеі ўніверсітэта Ла-Серэна




Залаты медаль, адліты ў Чылі з ініцыятывы сяброў і вучняў у 1885 годзе (у гэты час І. Дамейка знаходзіўся на Бацькаўшчыне)




Дарожны знак на павароце да горада Дамейка, які знаходзіцца на поўнач ад горада Ла-Серэна



Exemplar.

SUMMA · AUCTORITATE
AUGUSTISSIMI · IMPERATORIS · AC · REGIS
FRANCISCI · IOSEPHI · I
NOS
RECTOR · UNIVERSITATIS · IAGELLONICAE
ORDINISQUE · MEDICORUM · DECANUS
IN
VIRUM · CLARISSIMUM
IGNATIUM · DOMEYKO
LITHUANUM
APUD · CHILENSES · IN · AMERICA · PROFESSORIS · ET · RECTORIS · MAGNIFICI · MUNERE · FUNCTUM
DE · GEOLOGIA · ET · RE · LITTERARIA · OPTIME · MERITUM
APUD · NOSTRATES · ET · EXTEROS · OB · EXCELLENTES · ANIMI · VIRTUTES · HAUD · VULGARI · FAMA · ILLUSTREM
EX · DECRETO · ORDINIS · MEDICORUM
CONSENTIENTE · UNIVERSITATIS · SENATU
QUO · DIE · INAUGURATIONEM · COLLEGII · NOVI · SOLLEMNITER · CONCELEBRAMUS
HONORIS · CAUSA
MEDICINAE · DOCTORIS · NOMEN · IURA · ET · PRIVILEGIA
CONTULIMUS · IN · EIUSQUE · REI · FIDEM · HASCE · LITTERAS · UNIVERSITATIS · SIGILLO · SANCIENDAS · CURAVIMUS
CRACOVIAE · DIE · XIV · MENSIS · IUNII · MDCCCLXXXVII

Stanislaus comes a Tarnow | Thaddaeus Browicz | Prof. Dr. Leo Cyfrowicz

Дыплом доктара «honoris causa» Ягелонскага ўніверсітэта, выдадзены 14 чэрвеня 1887 года ліцьвіну Ігнату Дамейку

горадзе Ла-Серэна быў надрукаваны падручнік "Клас хіміі, фізікі і мінералогіі ў Какімбаўскім калегіюме". Як падае Здзіслаў Ян Рын, у снежні 1842 года ў некалькіх сталічных выданнях быў апублікаваны Дамейкаў праект рэформы школьнай адукацыі Рэспублікі Чылі. Яму прапанавалі за кошт урада наведаць прадпрыемствы гарнаруднай прамысловасці дэпартамента Кап'япо ды прылеглыя Кардыльеры.

Узрадаваны такой высокай ацэнкай сваёй працы, Дамейка пры канцы сакавіка 1842 года вярнуўся ў Какімба. Ён пачаў курс фізікі для новых вучняў, для найбольш здольных прадоўжыў заняткі па аналітычнай хіміі і горным вымярэнні. Яго радавалі поспехі неафітаў, цешылі глыбокія веды вучняў, што прыйшлі да яго ў першы год. Трое лепшых з іх, Куадрас, Альфонса і Асорыа, за кошт урада паплылі ў Францыю, дзе двое сталі студэнтамі Парыжскай Горнай школы, а трэці паехаў вучыцца ў Горнай школе дэпартамента Луара. Там юнакі з Какімба, пэўна ж, не сталіся сенсацыяй, бо ўжо ў 1840 годзе на паседжаннях Парыжскай Акадэміі навук загаварылі пра навуковыя працы выкладчыка з Какімба, які прыслаў апісанне новага мінерала аркерыта. Таго ж году Дамейкавы аналітычныя артыкулы пра чылійскія мінералы былі надрукаваныя ў парыжскім часопісе "Annales des Mines" ("Гадавікі шахтаў"), які выдавалі выкладчыкі Парыжскай Горнай школы.

З нецярплівасцю чакаў Дамейка канікулаў 1843 года, каб паехаць у аплочанае ўрадам трохмесячнае падарожжа. Маршрут вёў праз дэпартамент Кап'япо ў Анды аж да хрыбта і далей праз Надбярэжныя Кардыльеры. Ці варта гаварыць, як шмат новага ўбачыў Дамейка, якія важныя геалагічныя назіранні занатаваў, колькі новых узораў мінералаў, руды прывёз. Ягоная палеанталагічная калекцыя папоўнілася шматлікімі ракавінамі з вышэйшага пояса Андаў.

Але няўрымслівы даследніцкі дух нашага земляка зноў клікаў яго да новых, невядомых вяршыняў.

Наступным разам ён узяў з сабою вучняў. Пэўна ж

і ў гэтым падарожжы былі зацікаўленыя ўлады, а таксама гаспадары капальняў ды рудняў, дзеці якіх вучыліся ў калегіюме. Дамейка ў сваім дзённіку згадвае, што яны, добра забяспечаныя правіянтам, рушылі на добрых конях за раку Какімба да вяршыні славутай сваімі марскімі ракавінамі Кардыльеры Донная Ана, якая ўзнялася на 4526 метраў над роўнем мора. Адтуль, спусціўшыся ў каньён ракі Рыа Клара, падарожныя пачалі ўзнімацца да самай высокай у тым месцы вяршыні Андаў — гары Вакас Геладас і па яе схілах дайшлі да самога хрыбта Андаў. Дамейка радаваўся з новых уражанняў і новых збораў, але найбольш цешыўся, што ягоныя маладыя спадарожнікі захапіліся пошукамі мінералаў ды палюбілі горы.

У студзені 1844-га, апошняга, паводле дамовы, года працы Дамейкі ў Чылі, ён выбраўся зноў на поўнач краіны. Яго цікавілі радовішчы і капальні дэпартамента Кап'япо. Далінаю аднайменнай ракі Дамейка выйшаў да Андаў, а пасля наведаў капальні серабра ў Сан-Антоніё, дзе знайшоў два невядомыя раней мінералы: бісмутавае серабро і аршэнікавую медзь.

Настала пара падсумоўваць вынікі шматгадовай дзейнасці.

Трое ягоных вучняў ужо вучыліся ў Францыі, чатыром лепшым, якія засталіся дома, Дамейка выдаў пасведчанні, што яны авалодалі метадамі прабавання разнастайных рудаў, умеюць рабіць неабходныя вымярэнні ў шахтах ды планы горных распрацовак, а таксама пацвердзіў, што яны здольныя на адпаведныя разнастайныя паслугі ў руднях. Для кожнага з іх прывезлі з Францыі неабходныя для далейшай працы хімікаліі ды вымяральныя прылады. Як зазначаў сам Дамейка, гэтыя ягоныя пасведчанні сталі гарантыяй якаснай працы іх уладальнікаў ды былі прызнаныя ва ўсім Чылі. З часам увесь гандаль рудамі і металамі правінцыі Какімба пачалі ажыццяўляць на падставе вынікаў прабавання Дамейкавых вучняў.

Адзін ягоны вучань, сын простага шахцёра, дон Мануэль Арацэна, стаў нагэтулькі вядомым сваёй сум-

леннасцю і дакладнасцю выканання пробаў розных відаў меднай і сярэбранай руды, што паводле ягоных аналізаў падпісвалі дамовы куплі—продажу сыравіны вартасцю да ста тысяч піястраў. Варта згадаць іншага ягонага вучня, дона Нікаласа Нараньё, што вызначыўся асаблівымі здольнасцямі да гарнарудных распрацовак. Ён стаў намеснікам дырэктара, а пасля і дырэктарам адной з найбагацейшых капальняў. Ад Дамейкі дон Нікалас пераняў не толькі веды і прыстойнасць, але і любоў да геалогіі, гор, прагу да пошукаў. Менавіта ён адкрыў багатае радовішча серабра і назваў яго "Mina de Domeyko" ("Капальня Дамейкі"). Паводле З.Я.Рына, радовішча выкарыстана, але на тым месцы можна бачыць сцены будынкаў — своеасаблівы помнік славутаму настаўніку.

У той апошні год давялося парадкаваць геалагічныя назіранні, занатаваныя ў двух працяглых падарожжах на поўнач і ў правінцыю Сант'яга. На падставе тых назіранняў Дамейка напісаў вялікую навуковую працу пра будову і склад чылійскіх гор. Пазней, у 1846 годзе, яна была надрукаваная ў дзевятым томе "Annales des Mines".

У тых жа "Гадавіках", у трактатах пра мінералы раз-пораз з'яўляліся новыя звесткі пра Дамейкавыя знаходкі ды ягоныя апісанні чылійскіх мінералаў. Какімбаўскі настаўнік пасылаў пасылкі з узорамі невядомых эўрапейцам мінералаў, такіх як аркевіт, складанай структуры аміяліт, эмбаліты, сярністае серабро з меддзю, аршэнікавая медзь. "Дамейкіт" — так у гонар нашага суайчынніка назваў гэты апошні мінерал вядомы аўстрыйскі геолаг, дырэктар Венскага мінералагічнага кабінета Вільгельм Карл Гайдынгер.

# АРАЎКАНІЯ

*Таемныя піктаграмы * Зямля, палітая крывёю * Араўканскія героі * Пушчы і рэкі * "Мары, мары, пены" * Традыцыйны цырыманіял * Крыніца мужнасці * Крыўды і патрэбы індзейцаў*

Закончвалася шасцігадовае знаходжанне Ігната Дамейкі ў Чылі. Але заставалася няздзейсненай адна мара.

Падарожнічаючы ў пустынях і гарах, Дамейка шмат разоў сустракаў на камянях і скалах розныя малюнкі, пераважна колцы і крыжыкі чорнага ды чырвонага колераў. Нават праваднікі-індзейцы не ведалі сэнсу гэтых знакаў, а магчыма, і не хацелі адкрываць іх таямніцу. Гэтыя крыжыкі і колцы вабілі Дамейку не менш, чым легенды пра чыны канкістадораў і паэма гішпанца Эрсільі "Араўкана"*. У дзённіку Ігнат назваў такія пісанкі "трактатамі, на скалах напісанымі, несумненна больш трывалымі, чым нашыя, якія забываюцца, перш чым збуцвее папера".

Першы раз настаўнік з Какімба ўбачыў такія знакі пад час падарожжа 1840 года з Фрэйрына ў Кап'япо. "За пару гадзін дарогі адно толькі звярнула маю ўвагу і перапыніла одум. Ля самай дарогі ляжаў вялізны дыярытавы валун; на ягонай цвёрдай паверхні, пацямнелай і гладкай, былі намаляваныя чорным і чырвоным нейкія індзейскія героглiфы. Былі там чорныя і чырвоныя колцы, неахайныя малюнкі нібы папугаяў і гуанакаў, кручкі ды іншыя няпэўныя знакі". А тое, што некаторыя з гэтых знакаў паўтараюцца і сустракаюцца за сто і дзвесце міляў адсюль на поўдзень, было для

---

** Эрсілья-і-Суньіга Алонса дэ (1533–1596) – гішпанскі паэт. У 1554 годзе далучыўся да войска, якое адплывала ў Чылі, дзе ўдзельнічаў у бітвах з араўканцамі. Напісаў паэму "Араўкана" (1569 г.), у якой апеў мужнасць араўканскіх правадыроў і простых ваяроў.*

Дамейкі сведчаннем, што гэта нейкія з даўніх часоў прызнаныя індзейцамі формы зносінаў ці звесткі пра ваенныя падзеі, магчыма, паляванні, нарады або гульні і турніры, якія і да гэтага часу ладзяць араўканцы і патагонцы.

Ніхто з навукоўцаў не мог патлумачыць, што азначаюць гэтыя надпісы на камянях. Дамейкавыя сталічныя калегі згодна прызнавалі вельмі старажытнае іх паходжанне. Верагодна, знакі малявалі яшчэ да адкрыцця Амэрыкі эўрапейцамі, а магчыма, і да захопу гэтых земляў інкамі. Простыя ж людзі бачылі ў гэтых незразумелых герогліфах штось таемнае і не хацелі пра іх гаварыць з чужаземцамі.

Аднойчы Дамейка перарысоўваў гэтыя старажытныя індзейскія "пісанкі" і заўважыў, што ягоны праваднік стаў, як укопаны, моўчкі, з пашанай да гэтага помніка сваіх продкаў, бо лічыў сябе індзейцам. Праваднік добра гаварыў па-гішпанску і меў арыстакратычнае імя Сандавола, але вельмі не любіў гішпанцаў. Ён не аднойчы пранікнёна расказваў госцю пра вялікую свабоду, якую мелі колішнія жыхары гэтых краёў, пра багацце, пра залатыя дыядэмы князёў, пра замкі ў высокіх Кардыльерах, дзе праводзілі блаславёныя леты, пра паляванні і войны, пра незлічоныя чароды гуанакаў і вікунняў, якімі кішэлі горы; цяпер цяжка здабыць гуанака, а вікунняў ужо і не напаткаеш.

Тыя індзейцы, чые землі ўвайшлі ў склад Рэспублікі Чылі, ужо былі ахрышчаныя і шмат што страцілі з сваёй культуры*. Але на поўдзень ад Чылі, у Араўканіі**, жылі індзейцы, саманазоў якіх мапучэ — "людзі зямлі". Дамейка прагнуў наведаць іх краіну. Падарожжа мела найперш філантрапічную мэту — пазнанне гераічнага народа, які тры вякі бараніў сваю зямлю ад гішпанцаў. Які гэта мог быць прыклад для Дамей-

---

* *Зрэшты, не толькі з культуры. "Цывілізаваныя" прайдзісветы рознымі хітрыкамі захоплівалі індзейскія землі і ў гэтых сваіх маёнтках разбуралі хаціны, праганялі індзейцаў, высякалі лясы, а на іх месцы ладзілі пашу для быдла. Такім чынам край рабіўся бязлюдным.*

** *Цяпер гэтыя землі з'яўляюцца часткай тэрыторыі Чылі.*

кавых землякоў! Араўканцы заставаліся незалежнымі і ад Рэспублікі Чылі, хоць пасля вайны фармальна над імі быў прызначаны камісар – "камісар індзейцаў" – прадстаўнік урада Чылі, накшталт консула. Дамейка намерваўся весці і геалагічныя назіранні, зведаць горы, даследваць вулкан Антука.

У край, які яго даўно вабіў, дон Ігнасіё выбраўся напярэдадні Калядаў 1844 года з рэкамендацыйнымі лістамі тагачаснага ды былога прэзідэнтаў. Інтэндант правінцыі Кансепсьён палкоўнік Бульнес даў Дамейку перакладніка, праваднікоў-індзейцаў, жаўнера і загадаў камісару апекавацца падарожнікамі.

У першы дзень стырнік перавозу на рацэ Біё-Біё, паказаў падарожным поле бітвы араўканцаў з канкістадорамі Пэдра Вальдзівіі, заснавальніка Чылійскай дзяржавы, – паплавы па-над ракой Біё-Біё, палітыя крывёю індзейцаў. Пра незвычайную мужнасць індзейскіх правадыроў Ляўтара, Талькаўана і Тукапеля, чыімі імёнамі гішпанцы назвалі гарады, Дамейка чытаў у паэме "Араўкана". Асабліва ўразіла яго мужнасць аднаго індзейскага князя – кацыка. Яго схапілі канкістадоры і дзеля запалохвання іншых адсеклі правую руку. А той паклаў на калоду і другую, а пасля падставіў і горла, бо яно, сказаў, іхнай крыві прагне.

Цікавым, хоць і цяжкім ды небяспечным, быў далейшы шлях. Даводзілася прадзірацца праз араўканскія пушчы, у чаўнах і ўброд перапраўляцца цераз рэкі, якія Дамейка ў сваім дзённіку параўнаў з Шчараю, Нёманам. Наш суайчыннік углядаўся ў араўканскія лясы – яны нагадвалі яму дубровы і гаі роднай Наваградчыны. Хоць чылійцы апавядалі пра мапучэ неверагодныя гісторыі ды не раілі ехаць у Араўканію, ні Дамейка, ні ягоныя спадарожнікі не зазналі ад "дзікіх" індзейцаў крыўды. У хатах кацыкаў ён назіраў звычаі, побыт, адзенне, распытваў пра вясельныя ды хаўтурныя абрады – і ўбачыў старажытную, не кранутую гішпанскім уплывам культуру.

«Быў поўдзень, калі мы спыніліся каля дома кацыка Паікаві па-над ракой такога ж назову. Перш

чым злезці з коней, затрымаліся перад дзядзінцам, на які нікому нельга зайсці, пакуль не выйдзе гаспадар. Выйшаў кацык і закурнявіў грубым, нібы прыдушаным голасам: "Мары, мары, пены", што азначае, як маешся, як маешся, сябра; паўтарыў гэта, выцягваючы шыю і працягваючы руку да кожнага з нас асобна. Гэта быў знак, што запрашае да сябе».

Камісара, Дамейку ды ягонага вучня Мігуэля пасадзілі пад страхой, на нізкай, накрытай аўчынамі лаве — нібы на прызбе. Гаспадар сеў збоку, тварам да гасцей. Рэшта зборні размясцілася на зямлі.

Першы загаварыў гаспадар, гарлавым голасам і сумна, нібы аплакваў кагосьці на хаўтурах: паніжаў і павышаў тон, працягваючы калі-нікалі і падцягваючы апошнія сілабы да актавы, а пасля рэзка зніжаў тон да баса і пераходзіў на рэчытатыў, прамаўляючы сотні словаў не без пэўнай гармоніі, хоць і не падобнай да той, якою вызначаюцца эўрапейскія гаворкі. Такім жа спосабам адказваў гаспадару кацык з Тукапеля, што прыехаў з гасцямі, і, здавалася, спаборнічаў з гаспадаром. Усе іншыя ў гэты час сядзелі спакойна, апусціўшы вочы долу і схаваўшы рукі пад понча. Абодва кацыкі наперамен, адзін за адным, гаварылі-спявалі, не гледзячы на гасцей ды і адзін на аднаго. І толькі калі трэба было выдаць вельмі высокі і працяглы тон, кацык выцягваў шыю і крыху ўзнімаў уверх галаву. Як певень перад кукарэканнем, — заўважыў пра сябе Дамейка. Гучанне араўканскай мовы не падалося яму непрыемным.

Гэтая спеўная дэкламацыя двух кацыкаў доўжылася больш за гадзіну, і перш чым адзін закончваў, пачынаў другі. Ніхто не адважыўся перапыніць іх. Калі змоўклі абодва, гаспадар устаў, зняў свой саламяны вастраверхі капялюш, падышоў да камісара і вітаў яго цырыманіяльна, прытуляючы свой твар да камісаравага пляча — раз да правага, другі раз да левага і трэці раз зноў да правага. Пасля кацык гэтак жа прывітаўся з Дамейкам, з донам Мігуэлем і капітанам. З рэштай дружыны, нават з індзейцамі ён пры-

вітаўся фармальна, падаючы свой капялюш асобна кожнаму — кожны дакранаўся да яго правай рукой.

Кацык-гаспадар вярнуўся на сваё месца, а камісар араўканскай гаворкай пачаў прамаўляць да гаспадара, расцягваючы апошнія склады, а два кацыкі ды два іншыя сталага веку індзейцы адказвалі камісару спеўна, ціхім голасам.

Няпісаны араўканскі этыкет абавязвае гаспадара пытацца пра здароўе і справы суседзяў падарожнага або госця ды іх родных, пра людзей, якіх напаткаў па дарозе, а таксама і пра паселішчы, праз якія праязджаў. На кожнае з тых пытанняў госць ці ягоны таварыш павінен адказаць і пытацца адпаведна пра здароўе гаспадара, ягоных бацькоў, жонак. І на тым не канец; гаспадар пытаецца пра здароўе чародаў быдла, табуноў коней, і пра птаства павінен памятаць, а пасля і пра палеткі пшаніцы, ячменю, лёну, кукурузы, фасолі ды пра шмат што іншае. І на ўсё трэба даць канкрэтны адказ.

Гаварыць пра важныя справы звычайным спосабам, лічаць індзейцы, не ветліва, а таму яны для аздобы ўзаемных вітанняў ужываюць квяцістую, спеўную прамову, і ўсяму гэтаму вучацца з дзяцінства. Сваё рытарскае ўмельства яны выкарыстоўваюць і на сходах, пакуль ад гаворкі не пяройдуць да справы. Дамейку апавядалі, што славутыя ваяры накшталт Ляўтара былі таксама красамоўнымі і на араўканскіх сходах ды прамовай, як і сваім прыкладам, умелі запаліць прагу да бою.

Кацыкі не толькі віталі Дамейку, але выказвалі свае прэтэнзіі ды просьбы да ўрада Чылі. На беразе ракі Імперыяль Дамейку сустрэлі шыхты з конных індзейцаў і 14 кацыкаў. Мясцовы кацык нагадаў госцю, што на гэтым месцы было замірэнне пасля вайны з Чылі. Ён прасіў сказаць прэзідэнту, што індзейцы шануюць пагадненне, бо вайна нішчыць палеткі і чароды, што яны жадаюць, каб ім не чынілі крыўды.

Дамейку паказалі старую белую харугву ды прасілі новую. Вяртаючыся з паўднёвай араўканскай пра-

вінцыі Вальдзівія, якая ўваходзіла ў склад Чылі, Дамейка прывёз па-над Імперыяль жаданы падарунак — "белую шаўковую харугву з жоўтымі стужкамі" як знак міру.

У дзённіку Дамейка не толькі занатаваў уражанні. Ён заўважыў, што такая цырыманіяльная мова, якой вучацца і выкарыстоўваюць, вітаючы госця, — доказ, што спрадвеку, з дакалумбавых часоў, у Араўканіі панавалі гасціннасць, сямейная любоў, узаемная зычлівасць, зацікаўленасць лёсам блізкага. І ці могуць эўрапейцы ганарыцца сваімі звычаямі, калі людзі ў прыгожых палацах і з прыгожай мовай часта пачынаюць візіты з абгавораў, злосным вытыканнем людскіх хібаў і правінаў?

У Дамейкавым дзённіку мы знаходзім ягонае меркаванне пра крыніцу мужнасці мапучэ. "Гэты спосаб прымання гасцей, пачынаючы з жадання даведацца пра мілых сэрцу госця асобаў і край, не мог быць выдумкай, прымусова ўведзенай паміж дзікуноў; ён мусіць быць спадчынай таго маральнага стану Араўканіі, пра які ўжо страчана памяць, стану безумоўна вышэйшай культуры і любові, чым той, які ўбачылі гішпанцы. Магчыма, з дагістарычнай эпохі зышлі на гэты люд адвага, мужнасць, любоў да свабоды і незалежнасці, зышлі той дух самаахвярнасці і палымяны патрыятызм, які іх бараніў і бароніць ад захопнікаў, ад тых славутых канкістадораў, якія заваявалі паўсвета"*.

Аднак "камісар індзейцаў" меў іншае меркаванне пра араўканцаў, называў іх здрадлівымі, падступнымі, звярамі, якіх трэба трымаць на повадзе, "нават знішчаць, калі будзе патрэба". А калі Дамейка нагадаў яму пра неабходнасць ладзіць у Араўканіі хрысціянскія місіі ды вучыць індзейцаў, камісар, пляснуўшы рукой па сваёй шаблі, адказаў: "Я іх усяму навучу!"

Яшчэ ў дарозе Дамейка даведаўся з газеты, што ў Какімба здарыўся пажар. Згарэлі дом, у якім ён жыў, і лабараторыя, якой было асабліва шкада (ягоныя аса-

---

* *Дамейка І. Мае падарожжы. С. 331.*

бістыя рэчы ацалелі, бо "добрыя чылійцы ляцелі ў агонь, каб ратаваць, што можна было").

Аднак Дамейка не адмовіўся ад намеру пабачыць вулкан Антука, пра які паведамілі, што ён прачнуўся і вылівае лаву. Яны ўдвух з донам Мігуэлем, вучнем Какімбаўскага калегіюма, паехалі берагам ракі Біё-Біё на ўсход. Яшчэ здалёк падарожнікам адкрыўся цудоўны краявід на галоўны хрыбет Андаў. Дамейку найбольш уразіла трох'ярусная гара з белым конусам, што вылучаўся на бірузовым небе. Гэта і была вяршыня вулкана Антука.

Вярнуўшыся ў Какімба, Дамейка ўзяўся пісаць кнігу — слова ў абарону правоў індзейцаў мапучэ. Ён пажадаў нагадаць ураду Чылі, "у якім стане цяпер знаходзяцца мапучэ, пра іх уяўленні ды звычаі, а найболей пра несправядлівасць і злоўжыванні, якія чыняць індзейцам жыхары памежных чылійскіх паселішчаў ды ўрадавыя чыноўнікі", нагадаў пра "дазволеныя сродкі, якія паспрыяюць захаванню гэтай высакароднай расы амэрыканскіх тубыльцаў, а таксама зліццю яе з чылійскім народам". Ужо ўлетку, а дакладней, у чылійскую зіму, Дамейка выдаў кнігу "Араўканія і яе жыхары". Паводле ягонага дзённіка, кніга спадабалася чылійцам, хоць Дамейка ўшчуваў іх ды чылійскі ўрад за несправядлівае абыходжанне з сынамі дакалумбавай Амэрыкі. Кнігу перадрукавалі ў аргенцінскіх газетах ды ў Калумбіі, перавыдавалі ў Чылі*. Але найбольш цешыўся наш зямляк з Божай ласкі, што зышла на гэтую краіну, бо "пасля і чылійскі ўрад змяніў на лепшае абыходжанне з Араўканіяй"**.

---

* *У 1860 годзе яна выйшла ў Вільні ў перакладзе на польскую мову.*

***Domeyko I. Moje podróże. Pamiętniki wygnańca. T. I–III. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1963. T. III. S. 20.*

# КАСА НА КАМЕНЬ ТРАПІЛА

*Імкненне да Бацькаўшчыны * Ад'езд з Какімба * Чылійскі ўніверсітэт * Нацыянальны інстытут * Праект кардынальных рэформаў * Прынцыповыя спрэчкі * Першая лекцыя фізікі*

Пасля вяртання з падарожжа па Араўканіі Дамейка застаўся ў краіне яшчэ на год. Ён намерыўся аднавіць лабараторыю ды прадоўжыць заняткі. Для Дамейкі пачалі ўжо будаваць дом, аднак сябрам ён пісаў пра радасць чаканай сустрэчы, а пра сваю працу ў Чылі аднойчы заўважыў, што "шэсць гадоў праспаў у Какімба".

Чылійцы былі ўдзячныя за веды з хіміі, фізікі, мінералогіі, геалогіі, за маладых спецыялістаў, падрыхтаваных дзеля адказнай працы ў асноўных сферах нацыянальнай вытворчасці. За гэта, як падае З.Я.Рын, наш зямляк 28 кастрычніка 1846 года атрымаў падзяку ад уладаў горада Ла-Серэна. Яшчэ адну ўнікальную навіну пакідаў чылійцам дон Ігнасіё Дамейка-Анцута — аднаўлены і ўладкаваны асабіста ім мінералагічны кабінет, на той час адзіны ў Чылі.

Наш суайчыннік сумленна выканаў усе ўмовы кантракта і ў кастрычніку 1846 года падаў міністру адукацыі просьбу на звальненне, якую задаволілі. Як вынікае з ліста сябру, Дамейка атрымаў ад урада прапанову пераехаць у Сант'яга, дзе яму абяцалі цікавую працу. Але ён хацеў вярнуцца ў Эўропу.

Сардэчна развітваючыся з вучнямі, дон Ігнасіё заклікаў іх няспынна папаўняць свае веды, захаваць на ўсё жыццё працавітасць, сумленнасць. Ён нагадаў, як на занятках па фізіцы, геалогіі звяртаў увагу юнакоў на абмежаванасць чалавечага розуму, на мудрасць

Тварца ды неабходнасць веры. Не менш чула развітваўся наш зямляк з жыхарамі Какімба, якія шчыра палюбілі настаўніка і былі ўдзячныя яму за яшчэ адну добрую справу: з шаноўнымі грамадзянамі горада ён заснаваў таварыства дабрачыннасці.

18 лістапада 1846 года а дзевятай гадзіне раніцы Дамейка выбраўся у дарогу. Хоць у порт Ла-Серэна можна было даехаць і на вазку, ён асядлаў свайго любімага каня. Цягам шасці гадоў той верна служыў яму ва ўсіх далёкіх падарожжах, тройчы бачыў ледзяныя вяршыні Андаў і чорныя прорвы ў іх ды не аднойчы вынес свайго гаспадара з небяспечных мясцінаў. На прыстані Дамейка, прылашчыўшы свайго любімца апошні раз, перадаў яго рэктару калегіюма з просьбай аддаць каня таму, хто першым зойме пакінутую кафедру, ачоліць хімічную лабараторыю. А сам паплыў у порт Вальпараіса і чакаў парахода ў Эўропу.

Але параход затрымоўваўся, і Дамейка паехаў на пару дзён у сталіцу, каб развітацца з генералам Хасэ Алдунатэ — з ягонай ініцыятывы запрасілі ў Какімба выкладчыка мінералогіі. Алдунатэ шчыра вітаў госця, частаваў яго ў сваім доме. І, вядома, не хацеў, каб такі спецыяліст выязджаў з краіны. Ён сабраў Дамейкавых знаёмых: генерала Франсіска Антоніё Пінта, міністра адукацыі Мануэля Монта. Яны пачалі ўпрошваць Дамейку дапамагчы правесці праз Універсітэцкую раду праект рэформаў, пра неабходнасць якіх дон Ігнасіё пісаў міністру Монту яшчэ два гады таму. І цяпер міністр згаджаўся прызначыць яго сябрам Універсітэцкай рады. Урадоўцы ўсвядомілі, што неабходныя радыкальныя рэформы адукацыі і тут без дапамогі дона Ігнасіё ім не абысціся.

Наш суайчыннік разгубіўся. Рэчы, мінералагічная калекцыя спакаваныя, падрыхтаваныя ў далёкую дарогу. У марах ён ужо плыў у Эўропу. Хоць з дому прыходзілі ўсё больш сумныя весткі, Ігнат хацеў быць бліжэй да Бацькаўшчыны. А тут прапануюць зрабіць яшчэ адну паслугу гасцінным людзям, народу Чылі. Відаць, дон Ігнасіё, калі яму паказалі праект рэфор-

маў, зразумеў, што з такой рэарганізацыі будзе мала карысці. Яму хацелася, каб з Какімбаўскага калегіюма бралі прыклад іншыя школы і гімназіі, хацелася ўбачыць увасабленне задуманага пераўтварэння. Гэтае жаданне перамагло. Дамейка не змог адмовіцца, застаўся і адразу ж узяўся за рэдагаванне, а верагодна, пачаў складаць новы праект рэформы ўсяго чылійскага школьніцтва ды самога ўніверсітэта.

Чылійскі ўніверсітэт (Universidad de Chile) адрозніваўся ад падобных установаў Гішпаніі, Нямеччыны. Гэта была адміністрацыйная ўстанова для кіраўніцтва і візітацыі (нагляду) ўсёй дзяржаўнай сістэмы адукацыі. Другая асноўная функцыя ўніверсітэта — апека над навукоўцамі ды распаўсюджванне ведаў, пераважна прыродазнаўчых навук, што павінны былі спрыяць пазнанню прыродных багаццяў Чылі, развіццю ўвогуле гаспадаркі краіны ды асабліва гарнаруднай прамысловасці. Фармальна ўсім гэтым і павінны былі займацца супрацоўнікі факультэтаў: філасофіі і гуманістыкі, права і палітычных навук, тэалогіі, матэматычных і фізічных навук, медыцынскага. Усёй дзейнасцю кіравала Ўніверсітэцкая рада, якая складалася з пяці дэканаў, двух урадавых раднікаў, сакратара і рэктара. Яны мелі права прымаць экзамены, прызнаваць навуковыя ступені, займаліся развіццём навукі і літаратуры, але самі не выкладалі, ды ўвогуле ва ўніверсітэце не чыталі ніякіх курсаў. Паводле функцыяў яго можна параўноўваць умоўна з сучаснай Акадэміяй навук.

Адукацыйная функцыя была даручана заснаванаму яшчэ ў 1811 годзе Нацыянальнаму інстытуту. Гэтая навучальная ўстанова мела кафедры права, медыцыны, вышэйшай матэматыкі ды прыродазнаўчых навук. Усё навучанне, пачынаючы з пачатковых класаў, (у тым ліку вышэйшая адукацыя) падпарадкоўвалася рэктару інстытута, вызначалася адзіным дысцыплінарным і адміністрацыйным статутам без уліку ўзросту ды адукацыі навучэнцаў.

Каб годна ацаніць ролю Ігната Дамейкі, выпадае звярнуць увагу на два аспекты.

Яшчэ з 1738 года ў Сант'яга існаваў каланіяльны Ўніверсітэт святога Піліпа, дзе атрымоўвалі схаластычныя веды. Улады незалежнай Рэспублікі Чылі ў 1842 годзе заснавалі замест яго Чылійскі ўніверсітэт. Гэта быў пяты год жыцця і працы нашага земляка ў Какімба, год, калі Дамейка наведаў сталіцу і абмяркоўваў з міністрам адукацыі неабходнасць новых школаў. Таму можна меркаваць, што ініцыятары такога пераўтварэння ведалі пра высокі эфект выкладчыцкай працы дона Ігнасіё Дамейкі-Анцуты. А таксама пра не менш карысныя навуковыя дасягненні, што пацвярджаецца, напрыклад, абраннем яго 10 лістапада 1841 года сябрам-карэспандэнтам вашынгтонскай Нацыянальнай установы спрыяння навукам. У Сант'яга ведалі пра поспехі ягоных вучняў, а таксама і пра відавочную карысць з той навукі не толькі навучэнцам Какімбаўскага калегіюма, але і непасрэдна капальням, рудням. Таму ўрад актыўна падтрымоўваў дзейнасць дона Ігнасіё, пра што сведчаць ганаровыя прызначэнні, прыкладам, згаданае прызначэнне дона Ігнасіё Дамейкі-Анцуты экспертам гарнаруднай прамысловасці правінцыі Какімба. А праз некалькі месяцаў на адкрыцці сесіі парламента Чылі прэзідэнт краіны Хаакін Прэта падкрэсліў дасягненні какімбаўскага настаўніка. Таго ж году дон Ігнасіё Дамейка-Анцута быў прызначаны галоўным экспертам прабавання рудаў і металу, а таксама экспертам гарнаруднай прамысловасці ўсёй Рэспублікі Чылі. Можна меркаваць, што ў Дамейкавых навучальнай методыцы і практычным дзеянні (геалагічных экспедыцыях і аналітычных даследваннях) ініцыятары стварэння Чылійскага ўніверсітэта ўбачылі прыклад, як трэба развіваць навуку маладой рэспублікі — на карысць яе гаспадаркі.

Але трэба зважаць і на іншы аспект. Ішоў пяты год дзейнасці Чылійскага ўніверсітэта, а вынікаў урад не бачыў. Відаць, нават ва ўніверсітэце не было больш адукаванага і дасведчанага спецыяліста, чым какімбаўскі настаўнік. Дык ці выпадае дзівіцца, што сябры, міністр адукацыі зрабілі ўсё магчымае, каб Ігнат Дамейка застаўся ў Чылі яшчэ хоць на колькі гадоў?

Падрыхтаваны Дамейкам і пададзены ў Асветніцкую раду праект найперш прапанаваў аддзяліць ад Нацыянальнага інстытута кафедры вышэйшай адукацыі. Далей, спалучыўшы іх з новымі кафедрамі неабходных для развіцця краіны навук, трэба было стварыць універсітэт накшталт колішняга Віленскага ды нямецкіх універсітэтаў. Нацыянальны інстытут Дамейка прапаноўваў ператварыць у гімназію. Безумоўна, праект рэарганізацыі школы і стварэння ўніверсітэта быў распрацаваны Дамейкам вельмі грунтоўна і падрабязна. Выхаванец Шчучынскага піярскага калегіюма, дзе давалі грунтоўныя веды з прыродазнаўчых і дакладных навук, перш за ўсё з матэматыкі, некалі рыхтаваўся да выкладчыцкай працы, а таму дасканала ведаў структуру Віленскага ўніверсітэта. Вучоба ў Парыжскай Горнай школе, лекцыі ў Сарбоне далі магчымасць параўноўваць розныя сістэмы адукацыі. Урэшце, Дамейка, маючы станоўчы досвед Какімбаўскага калегіюма, быў перакананы, што маладой дзяржаве з такімі прыроднымі багаццямі патрэбныя свае адукаваныя спецыялісты, якіх можа падрыхтаваць толькі прынцыпова новая сістэма ўніверсітэцкай адукацыі з новымі метадамі навучання.

Калі ж ва Ўніверсітэцкай радзе пачаліся спрэчкі, то галоўным апанентам Дамейкі стаў рэктар Нацыянальнага інстытута дон Антоніё Варас. Ён ні за што не згаджаўся на змену структуры ўстановы, усталяванага ім ладу дзейнасці інстытута. Рэктар быў, аднак, палымяным патрыётам, чалавекам адукаваным, дасведчаным, а таму і ў яго хапала грунтоўных аргументаў. Але і наш суайчыннік быў не менш настойлівы, смела бараніў свае прапановы, свой праект. Як ён сам пісаў, “жорсткія былі мае сутычкі з донам Антоніё; назіраючы збоку, нехта б сказаў: каса на камень трапіла”.

Мінуў студзень, пачыналіся летнія канікулы, а ў радзе так і не прыйшлі да згоды. Дамейка не хацеў саступаць і вырашыў застацца ў Чылі да сакавіка. А тым часам для сталіцы шукалі крыніцу добрай вады. Каму, як не дасведчанаму мінералогу і хіміку,

прапанаваць такое важнае заданне? Надвор'е стаяла цудоўнае, даследванне ручаінаў і рэк, што сцякалі з Андаў, асабліва ў параўнанні з геалагічнымі экспедыцыямі ў высакагор'і, здавалася экскурсіяй. За тыдзень былі ўзятыя пробы вады, аналіз іх у лабараторыі інстытута заняў два месяцы. Дамейкаву справаздачу нават надрукавала ўрадавая газета "Araucо".

На пачатку сакавіка аднавіліся спрэчкі ў радзе, і ў гэты ж час прыйшла вестка, што ў Каліфорніі знайшлі золата. Паімчаўся туды і выкладчык хіміі інстытута. Алдунатэ, Пінта і міністр адукацыі пачалі намаўляць дона Дамейку замяніць збеглага хоць бы часова, пакуль не знойдуць новага выкладчыка. Было пра што задумацца нашаму земляку. Вабілі магчымасці хімічнай лабараторыі інстытута, дзе можна рабіць аналізы рудаў, калекцыя якіх папаўнялася. Ягоныя вучні прыслалі некалькі знойдзеных за гэты час у ваколіцах Кацімба новых мінералаў.

Даходзілі невясёлыя весткі з Бацькаўшчыны пра смерць дзядзькі, пра трагічныя падзеі ў Галіцыі, пра нязгоду ў шэрагах эмігрантаў. Асабістыя рэчы і мінералагічная калекцыя мусілі заставацца ў Вальпараіса. Урэшце закончыліся і спрэчкі аб праекце рэформы адукацыі: былі прынятыя прапановы дона Ігнасіё Дамейкі-Анцуты. Дэкрэтам міністра адукацыі ад 22 снежня 1847 года Нацыянальны інстытут меліся раздзяліць. Адна частка, можна сказаць ніжэйшая, захоўвала стары назоў і заставалася пад уладай рэктара. Другая, вышэйшая, што павінна была ахапіць галіны асноўных навук, пераходзіла пад юрысдыкцыю гэтак званага ўніверсітэцкага дэлегата і атрымоўвала найменне Дэлегацыя. Зважаючы на нязгоду дона Антоніё Вараса, гэтую новую навучальную ўстанову пакуль што не называлі ўніверсітэтам. Прэзідэнт Чылі зацвердзіў праект.

Наш зямляк не прыняў прапановы заняць новую пасаду ўніверсітэцкага дэлегата. Найперш таму, што яшчэ спадзяваўся на перамены ў сітуацыі на Бацькаўшчыне. Дамейка хацеў таксама засцерагчыся ад чу-

жой зайздрасці, не жадаў, каб нехта падумаў, што ён, выкарыстаўшы сітуацыю, стаў на шляху паважанага рэктара ўніверсітэта сеньёра Андрэса Бэльё. Урад жа не хацеў перадаваць каму-небудзь іншаму падрыхтаваную донам Ігнасіё Дамейкам рэформу. І выкананне праекту было часова адкладзена.

Неўзабаве міністрам адукацыі стаў Дамейкаў сябар дон Мануэль Антоніё Такарналь. Не пытаючыся згоды ў сябра, новы міністр прызначыў яго прафесарам фізікі, ведаючы, што ніхто іншы не дасць лепей уяўлення вучням пра гэтую навуку. І Дамейка не адмовіўся. Ён сам любіў фізіку ды адчуў, што сапраўды зможа прынесці рэальную карысць вучнёўскай моладзі.

На першую лекцыю курса фізікі сабраліся не толькі вучні інстытута. Прыйшло шмат гараджанаў, міністр, выкладчыкі. Дамейка сказаў палымяную прамову, што мела стаць уводзінамі да вывучэння прыродазнаўчых навук, а стала заахвочваннем да ведаў, выяўленнем вышэйшых маральных і разумовых мэтаў фізікі ды матэматыкі, неабходнасці высакародных пачуццяў, з якімі трэба распачынаць вывучэнне гэтых навук, без чаго можна дайсці да аблудных, памылковых вынікаў. Сказаў Дамейка і пра духоўнае вяршэнства ведаў такіх людзей, як Ньютан, Капернік, Ляйбніц, Кеплер, Картэзій ды іншыя, якія стварылі падваліны гэтых навук. Дамейкава прамова спадабалася прысутным, яна была надрукаваная ў газетах ды неўзабаве выйшла асобным выданнем пад назовам "Уводзіны ў навуку прыродазнаўства". Пачынаўся новы этап жыцця ў Чылі, неспакойнага і бурлівага, нібыта на вулкане. А як жа з вулканамі? Неўзабаве наш зямляк ледзь не загінуў праз сваю надзвычайную цікаўнасць да гэтых унікальных з'яваў прыроды.

# КРАІНА ПАТРАБУЕ!

*Новы вулкан * Сальфатара * Дамейкавыя капцы * Цуд выратавання * Уласны кут * Жаніцьба * Краіна патрабуе! * На новым шляху * Ліцьвін-беларус – рэктар універсітэта * Пераабранне*

Спрэчкі, падобныя на землятрус, падрыхтоўка новых лекцый па мінералогіі, фізіцы, хіміі аддалілі думку пра ад'езд. Сыходзіў 1847 год, набліжалася свята Божага нараджэння – самая прыгожая пара ў Чылі. І тут нібы гром з яснага неба прагучала чутка, што на горад Талька, які знаходзіцца за сто міляў ад Сант'яга і за пяцьдзесят міляў ад патухлага вулкана Дэскабэсада, 27 лістапада пасыпаўся попел, усё навакольле ахутаў туман, а ў паветры стаіць смурод нібы ад паленай серкі. Газеты паведамлялі, што ў той жа час недалёка ад згаданага Дэскабэсада выбухнуў новы вулкан, што чуваць грукат каменняў, а на хмарах, што павіслі над Кардыльерамі, адбіваецца зарыва – нібыта вялізнага пажару.

Як можна было думаць пра ад'езд, не пабачыўшы такой унікальнай з'явы, "працу" такой прыроднай лабараторыі?! І як толькі скончыліся экзамены ў інстытуце, Дамейка з чаляднікамі на конях рушылі ў Тальку, адтуль – да новага вулкана. Гасцінны гаспадар фальварка Кумпэа, што знаходзіўся каля падножжа Андаў, недалёка ад вулкана, даў падарожным двух маладых праваднікоў і пастуха, які добра ведаў горы, каб яны паказалі дарогу госцю і аберагалі яго ад бяды. Мясцовыя людзі добра ўяўлялі, у якое небяспечнае падарожжа выбраўся легкадумны сталічны навуковец. А той гатоў быў рызыкаваць дзеля досведу.

Ігнат Дамейка ўжо быў асвойтаўся з землятрусамі. Першы ён перажыў на другі дзень пасля прыезду ў

Какімба. Стыхія тады надзвычай бурна прывітала свайго будучага даследніка. І на пачатку падарожжа ў Араўканію яму расказвалі пра жудасныя разбурэнні, паказвалі руіны гарадоў. Некаторыя з іх, як Пенка, былі зруйнаваныя тройчы. З гэтага Дамейка зрабіў выснову, што вынік землятрусу залежыць больш ад пароды грунту, на якім стаяць дамы, чым ад моцы штуршка. Землятрус, што абрынуў тысячы дамоў у Кансепсьёне, збудаваным на пясчаным грунце, не зрабіў ніякай шкоды мястэчкам, што стаялі за некалькі міляў далей на гранітным пласце.

Едучы ў Тальку, Дамейка ўспомніў і мясціну, якую назвалі Тэмблёрэс — пляскатае ўзвышша, усыпанае кавалкамі скалаў. Згадаў ён першае сваё знаёмства з "жаралом пекла" — вулканам Антука, адным з самых вялікіх у Чылі. Ігнат нават разважаў, што трэба зрабіць, каб ўсё ж дайсці да кратэра новага вулкана.

Дамейка меркаваў, што ўбачыць штосьці падобнае на вулкан Антука або на Этну ці Везувій, але гэта было зусім іншае відовішча. Замест лавы, попелу, шлаку ён убачыў вялізныя кучы скальных глыбаў, якія ўтваралі высокі, можа метраў на сто, вал, што цягнуўся ўпоперак каньёна паміж дзвюма гарамі — Дэскабэсада і Кэра Вэрдэ. Праваднік жа сказаў, што яшчэ два месяцы таму па гэтым шырокім каньёне жыхары недалёкіх вёсак гналі свае чароды на пашу. Дамейка вярнуўся да месца начлегу, але заснуць не мог. Яму карцела даведацца, чаму ўбачанае так не падобна на вядомыя яму апісанні звычайных маладых вулканаў. На досвітку разам з маладымі праваднікамі ён рушыў з намерам дайсці да самага кратэра.

Цяжка было ўзнімацца на камяністы вал, карабкацца па скальных глыбах. Дзе-нідзе яны пад уздзеяннем насычанай кіслінамі пары ператварыліся ў гліну, ступаць на якую вельмі небяспечна. Даводзілася пераскокваць з каменя на камень. Не вытрываўшы, Дамейкавы праваднікі збеглі... Вось нарэшце вяршыня вала: жарало вулкана павінна быць блізка.

Гара Дэскабэсада была некранутая, а схіл Кэра

Вэрдэ выглядаў нібы абдзёрты. У двух месцах з-пад каменя гэтага схілу выбіваўся дым — можа там кратэр? І Дамейка накіраваўся туды. Ён ішоў яшчэ дзве гадзіны, але нічога новага не заўважыў: усё тыя ж каменістыя, скальныя завалы, пара, пах паленай серкі. Чуліся гукі, падобныя да стрэлаў, узляталі камяні — вагою, мабыць, з кілаграм. Але не адчувалася ўздрыгвання зямлі, як тое было на вулкане Антука.

І толькі тут Дамейка здагадаўся, што гэта не вулкан, а сальфатара*. Дзве вулканічныя гары Дэскабэсада і Кэра Вэрдэ, ужо патухлыя вулканы, не мелі моцы выкінуць з сваіх нетраў распаленую лаву праз кратэры. Яны толькі здолелі разарваць тоўстую трахітавую шкарлупу, скальныя абломкі якой, выкінутыя вадзяной парай ды газамі, стварылі гэты вал: работа, можна сказаць, тысяч цыклопаў, — знайшоў параўнанне Дамейка. Загарэлася і серка, бо вецер, што тут дзьме, не тушыць, а раздзімае гэтыя пякельныя вогнішчы.

Дамейка дайшоў да сярэдзіны сальфатары. Слабелі, млелі ногі, сушыла ў горле — а вады праз паспешлівасць ранішніх збораў не прыхапіў. Трэба вяртацца.

Сходзіць было цяжэй. Даводзілася саскокваць з вышэйшага каменя на ніжэйшы — змучаныя ногі балелі ды падгіналіся, ступні саслізгвалі ў шчыліны, адкуль часам вырывалася пара, а то і агонь. Усё часцей і часцей даводзілася спыняцца, каб перадыхнуць, адпачыць. Урэшце Дамейка зваліўся на вялікую глыбу трахітавай скалы і страціў прытомнасць. А калі ачуняў, сонца ўжо зайшло. Вечаровы халадок асвяжыў, вецер развеяў туман пары і сярністых газаў. Дамейка пайшоў больш цвёрдым крокам, хоць і не ведаў дакладна, куды кіравацца. Аднак ён усё ж трапіў на бераг горнай рачулкі, каля якой і ўбачыў свайго каня, які давёз Дамейку да начлежнага вогнішча. Здзівіліся ягоныя праваднікі, убачыўшы дона Ігнасіё жывым...

---

**Сальфатара — звычайна невялікі бакавы кратэр патухлага вулкана, але ў гэтым выпадку наш герой трапіў на сальфатару незвычайных памераў.*

У Сант'яга было не нашмат спакайней, чым на сальфатары. Мала было клопату з рэформай, дык давялося заняцца адной далікатнай справай. Даўно ўжо вялася межавая спрэчка двух уладальнікаў багатых на серабро капальняў у Чаньярсільё. Яны вінавацілі адзін аднаго, што кваяцца на чужую тэрыторыю, што капаюць чужую руду. Але і даказаць сваю праўду ніяк не маглі, хоць наймалі шмат сведак і адвакатаў. Сябрамі аднаго з уладальнікаў былі Дамейкавы апекуны-заступнікі генералы Алдунатэ і Пінта, адвакатам жа — былы міністр Такарналь. І супраціўны бок таксама давяраў дону Ігнасіё. Нашага земляка папрасілі стаць межавым суддзёй. Дамейка не хацеў браць на сябе такі клопат, доўга адмаўляўся, але ўсё ж пагадзіўся, успомніўшы, як калісьці ягоны бацька тройчы абіраўся межавым суддзёй Навaградскага павета і ніколі не цураўся грамадскае паслугі.

Як толькі пачаліся канікулы, Дамейка паехаў у Чаньярсільё. На месцы ён пераканаўся, на якую адказную працу згадзіўся. Пададзеныя ў суд дакументы былі нагэтулькі заблытаныя, што нічым не маглі памагчы. Межавыя капцы не захаваліся, не было ніякіх прыкметаў, каб вызначыць першасныя абрысы атрыманых калісьці паводле дзяржаўнай канцэсіі ўладанняў ды кірунак рудaносных жылаў.

Дон Ігнасіё адмовіўся ад паслуг запрошаных гаспадарамі сведак. Ён сумленна ўзяўся вымяраць абедзве капальні звонку і ўнутры, пачаў складаць іх планы, грунтуючыся на сваіх вымярэннях, выкананых дзеля большай дакладнасці двума метадамі: графічным і аналітычным. Для ўласнай упэўненасці Дамейка выкарыстоўваў скрупулёзныя разлікі, а для ўладальнікаў ды асэсараў Найвышэйшага Трыбунала накрэсліў на паперы планы. З гатовымі вынікамі ён звярнуўся ў Найвышэйшы Трыбунал і прызнаўся, што не скарыстоўваў перададзеных яму Трыбуналам дакументаў, бо яны "цёмныя і незразумелыя". Дамейка быў гатовы да таго, што яго адхіляць і ён страціць права на ганарар. Але суд пацвердзіў ягоныя паўнамоцтвы і абавя-

заў прыняць рашэнне, да якога ён прыйшоў паводле свайго сумлення. На агалошанне дэкрэта сабралася мноства людзей, і шмат хто здзівіўся, даведаўшыся, што ўладальнік капальні, сябар генерала Алдунатэ, прайграў справу. Пагадзіліся супернікі, не было апеляцыі.

Прыблізна праз год Дамейку зноў запрасілі ў Чаньярсільё дзеля развязання падобнай спрэчкі. Праца ішла спарней. Але падрыхтаваныя разлікі давялося яшчэ раз перарабляць. А прычынай стаўся адзін надзвычайны выпадак. Вось як апісвае яго Дамейка.

"Пасля дваццаці дзён мазольнай працы я сядзеў за сталом, на якім ляжала толькі што накрэсленая карта капальняў, усе мае нататкі, вымярэнні. Побач сядзеў мой былы вучань дон Нікалас. Раптам я адчуў моцны зрух зямлі. І перш чым мог зразумець, што гэта можа азначаць, — адным рыўком сігануў праз пакой і стаў за парогам дома; паспеў скочыць за мною і дон Нікалас. А калі азірнуўся — на месцы дома ляжаў друз, пакрыты пабітай дахоўкаю. Сцяна, каля якой я сядзеў, абрынулася на стол, раструшчыла яго, змяла паперы і мае інструменты".

Дзівіўся пасля дон Нікалас, які вельмі баяўся землятрусу і быў надта чуйны да зямных зрухаў, што яго ны настаўнік выскачыў з крэсла раней, чым адчуў штуршок пад нагамі. Дамейка, шчыры вернік, успамінаючы праз шмат гадоў гэты выпадак, дзякаваў Богу за цудоўнае выратаванне. Працу трэба было пачынаць нанова. І хоць падземныя штуршкі часта паўтараліся, Дамейка спускаўся ў шахту. Там яму давялося пераканацца, што праўду казалі рудакопы: землятрус адчуваецца мацней на паверхні зямлі і больш шкоды прыносіць у вышэйшых галерэях. Выходзячы з шахты, ён дзівіўся на расколіны паверхні, бо пад зямлёй заўважаў толькі пакалыхванне полымя свечкі і не мог вытлумачыць, чаму так адбываецца.

Вядома, скрупулёзная праца была зробленая нанова. Каб запабегчы спрэчкам, Дамейка загадаў аднавіць межавыя капцы: глыбока ў скалу забівалі жалезныя прэнты, абмуроўвалі іх цэглай, камянямі. Гэтыя

слупы сталі называць Linderos de Domeyko – Дамейкавы капцы. Яны захаваліся і да цяперашняга часу.

Як згадвалася, у 1841 годзе прэзідэнт Чылі ў прамове на адкрыцці сесіі парламента адзначыў дасягненні какімбаўскага настаўніка. Яго тады ж прызначылі галоўным гарнарудным прабірнікам Чылі, а гэтая пасада роўная, можна сказаць, нашаму Дзяржстандарту. 26 снежня 1848 года Сенат і Палата дэпутатаў аднагалосна надалі Дамейку ганаровае грамадзянства Рэспублікі Чылі. Але ў Ігнатавым сэрцы ўсё яшчэ цеплілася надзея на вяртанне дамоў, хоць лісты сяброў-эмігрантаў не дадавалі аптымізму. Урэшце ён наважыўся купіць за горадам вілу з садам і на пачатку 1850 года перавёз туды скрыні з кнігамі і мінералагічнымі зборамі, што да гэтага часу захоўваліся ў порце Вальпараіса.

Напрадвесні таго ж года завітаў да Дамейкі генерал Алдунатэ, і яны пайшлі ў Батанічны сад. Вяртаючыся з пагулянкі, дон Ігнасіё залюбаваўся суседняй сядзібай ды алеяй з апельсінавых дрэваў, якая вяла ад самай брамы ўглыб сада. Дон Хасэ прапанаваў сябру: "Зойдзем сюды, калі жадаеш. Тут жыве мая крэўная сеньёра Сатамаёр. Пазнаёмішся з ёю – гэта ж твая суседка". Калі яны зайшлі ў сад, ім насустрач выбегла высокая паненка з вялікімі чорнымі вачыма. Убачыўшы гасцей, яна пачырванела, дон Ігнасіё таксама сумеўся. Глянуў дон Хасэ на сябра і зразумеў, што гэтая сустрэча прынясе вялікія перамены.

І сапраўды, 7 ліпеня 1850 года дон Ігнасіё Дамейка стаў мужам Генрыкеты Сатамаёр і пражыў з ёю шчасліва дваццаць гадоў, выхаваўшы дачку Аніту, сыноў Гернана ды Казіміра. Менавіта Казімір прадоўжыў род Дамейкаў. Каля 120 ягоных нашчадкаў лёс раскідаў цяпер па ўсім свеце.

У лютым 1852 года новы міністр адукацыі Ф.Лазкана афіцыйна звярнуўся да нашага земляка: "Рэформа школы і Ўніверсітэта, зацверджаная прэзідэнтам яшчэ ў 1847 годзе, да гэтага часу не праводзіцца, бо хваравіты рэктар універсітэта сеньёр Андрэс Бэльё не

хоча пачынаць яе, а вы, дон Дамейка, праз сваю далікатнасць адмаўляецеся паслужыць нам". І ён фактычна абавязаў Дамейку — краіна патрабуе! — прыняць вельмі ганаровую пасаду Delegado Universitario (універсітэцкага дэлегата) і пачаць падзел Нацыянальнага інстытута ды стварэнне новага ўніверсітэта.

Неўзабаве з гэтай нагоды Дамейку запрасілі да прэзідэнта. Там наш зямляк яшчэ раз засведчыў, што не можа прыняць абавязкі дэлегата праз супрацьдзеянне Антоніё Вараса, былога рэктара інстытута, на той час міністэрскага чыноўніка. Тады ж у кабінеце прэзідэнта і адбыўся апошні дыспут Дамейкі з донам Варасам: кожны стаяў пры сваім. Урэшце дон Ігнасіё згадзіўся прыняць пасаду, але з умовай, што навучэнцы новых факультэтаў не будуць падпарадкоўвацца суровай школьнай дысцыпліне, для іх будзе прыняты асобны адпаведны статут. Праз некалькі дзён, а менавіта 3 сакавіка 1852 года, прэзідэнт Чылі абвясціў, што Дамейкавы ўмовы прынятыя і ён прызначаны непасрэдным кіраўніком вышэйшых навучальных установаў Рэспублікі Чылі.

Не прайшло і тыдня, а ў гмаху Нацыянальнага інстытута ўсталяваліся дзве навучальныя ўстановы. У адной, што захавала былы назоў, засталіся шэсць класаў гімназіі. Другая ж склалася з трох факультэтаў: права, прыродазнаўства і матэматыкі, медыцыны. Слухачоў вышэйшых курсаў было няшмат, выкладчыкаў таксама: па трое для першых двух факультэтаў ды чацвёра для трэцяга. Сам Дамейка чытаў у інстытуце курсы мінералогіі, хіміі, фізікі ды такія ж універсітэцкія курсы. У лабараторыі поруч з ім заўсёды займаліся даследваннямі студэнты. Цягам часу іх пабольшала, а таму паводле ягонай прапановы пачалі будаваць хімічную лабараторыю і фізічны кабінет, а пазней і новы ўніверсітэцкі гмах.

Напружаная выкладчыцкая праца, лабараторныя даследванні мінералаў, якімі шчодра дзяліліся ягоныя вучні з сваіх шахтаў і рудняў, актыўная грамадская дзейнасць — так мінула дзесяцігоддзе. Рэктар універсі-

тэта сеньёр Андрэс Бэльё не перашкаджаў Дамейкавай дзейнасці, а таму ўніверсітэт з адміністрацыйнай установы ператвырыўся ва Universidad Docende — Універсітэт адукацыйны. Улады Чылі бачылі вынікі дзейнасці дона Ігнасіё і падтрымоўвалі ўсе ягоныя пачынанні. Тры факультэты ператварыліся фактычна ў прафесійныя вышэйшыя школы. Удвая павялічылася колькасць прафесараў, з'явіліся і ад'юнкты. Для факультэта правазнаўства быў прыняты асобны рэгламент навук, вызначаны абавязковыя дысцыпліны для будучых адвакатаў, суддзяў, адміністрацыйных чыноўнікаў і будучых лекараў. Дзеля падрыхтоўкі праграмы навучання будучых інжынераў, архітэктараў стварылі спецыяльную камісію, у складзе якой быў і наш суайчыннік.

Сам Дамейка, як адказны за якасць навучання, жорстка трымаўся пэўных правілаў. Ён прызнаваў права свабоднага выбару курсаў адпаведных навук, але лічыў неабходным захоўваць пэўныя метады і лад навучання. Каб прывучыць студэнтаў да неабходнага парадку ў выбары курсаў лекцый, якія яны былі абавязаны наведваць, ён на пачатку семестра запісваў кожнага студэнта на курс і пасля даваў дазвол на наступны курс, не дазваляючы, такім чынам, пераскокваць і дамагацца хуткага заканчэння навучання. Такая Дамейкава пазіцыя выклікала крытыку прыхільнікаў неабмежаванай свабоды навучання, якія такім чынам дамагаліся права вучыцца абы як, ды каб хутчэй закончыць універсітэт. Але поспехі лепшых студэнтаў, якія ахвотна прынялі такія правілы, пераканалі ўсіх, што Дамейкаў метад слушны і карысны.

Значна цяжэй было дамагчыся адпаведнага парадку ды неабходнай патрабавальнасці пры правядзенні экзаменаў. Вельмі важным Дамейкавым дасягненнем можна лічыць акт зацверджання ўрадам інструкцыі выдавання дыпломаў выпускнікам.

Дванаццаць гадоў выконваў дон Ігнасіё Дамейка-Анцута абавязкі ўніверсітэцкага дэлегата, пазбягаючы звадаў, уцякаючы ад плётак і палітыкі ў лабарато-

рыю. Штогод памнажалася колькасць ягоных навуковых артыкулаў у парыжскіх часопісах ды ў чылійскім "Anales de la Universidad de Chile" ("Летапіс Чылійскага ўніверсітэта"). Некалькі разоў, у 1855, 1858, 1862 гадах, французскія навукоўцы падавалі кандыдатуру дона Ігнасіё Дамейкі ў выбарах новых членаў Парыжскай Акадэміі навук.

1865 год, як і папярэдні, прынёс Дамейку найперш клопат. Асабліва цяжка далося яму складанне рапарта пра пажар у адным з касцёлаў Сант'яга, дзе згарэла шмат людзей. Перажыў ён хваробу сына, наракала на дрэннае здароўе і жонка. Давялося рыхтаваць экспанаты і на сусветную выставу ў Парыжы. Таму, відаць, ён перажыў маральны крызіс ды намерваўся адмовіцца ад абавязкаў універсітэцкага дэлегата.

У кастрычніку памёр дон Андрэс Бэльё, абралі новага рэктара, але і той кіраваў нядоўга. Пасля смерці другога рэктара ў ліпені 1867 года нанова ўсчаліся палітычныя жарсці: дзве групоўкі імкнуліся паставіць рэктарам свайго кандыдата. Адзін з іх — згаданы былы рэктар Нацыянальнага інстытута дон Антоніё Варас, колішні міністр, рэальны кандыдат на прэзідэнта рэспублікі. Але Вараса не любілі ва ўніверсітэце, бо ён быў жорсткі, грубаваты і меў дыктатарскія схільнасці. Да таго ж ўрадоўцы, кансерватыўная партыя, святарства пастанавілі не дапусціць абрання Вараса рэктарам (такая ганаровая пасада дадала б яму перавагі ў будучых выбарах прэзідэнта). Гэтая групоўка выставіла сваю кандыдатуру — дона Ігнасіё Дамейку-Анцуту, хоць ён адмаўляўся.

Усе газеты толькі і пісалі пра будучыя выбары. Дамейку папракалі, што ён клерыкал, што чужаземец. Але галасаванне выявіла большую папулярнасць нашага земляка. Ён быў абраны з перавагаю на 13 галасоў — 49, а 36 атрымаў Варас.

Дэкрэтам прэзідэнта Чылі ад 8 кастрычніка 1867 года дон Ігнасіё Дамейка-Анцута быў зацверджаны рэктарам Чылійскага ўніверсітэта, а 19 кастрычніка адбылося першае пад ягоным кіраўніцтвам паседжан-

не Ўніверсітэцкай рады. Праз дзесяць дзён рада сабралася ўжо ў новым універсітэцкім гмаху, будаваць які пачынаў Дамейка.

У сваім дзённіку Дамейка скардзіцца, што новая пасада дадала яму шмат працы, што ён не быў падрыхтаваны да такой адказнасці, не меў здольнасці кіраваць людзьмі. Але ўся ягоная далейшая дзейнасць даказвае, што толькі ён мог вывесці Чылійскі ўніверсітэт на эўрапейскі ровень. Дамейка стаў служыць не групоўкам, не чынавенству, а толькі навуковаму і гаспадарчаму прагрэсу Рэспублікі Чылі. Новы рэктар пазбягаў і дробных непаразуменняў. Прыкладам, ён не стаў прымушаць выкладчыкаў літаратурнага факультэта пераходзіць з інстытута ва ўніверсітэт, бо тыя не хацелі, але і не равёў туды тэалагічныя кафедры, як таго дамагаліся іх выкладчыкі, якія імкнуліся ствараць ва ўніверсітэце тэалагічны факультэт, што магло б выклікаць крытыку гэтак званых прагрэсістаў.

З кожным годам усё лепей спраўляўся наш зямляк з няпростымі праблемамі кіраўніцтва. Штогод павялічвалася колькасць кафедраў і выкладчыкаў, узбагачаліся зборы, бібліятэка. Навуковы часопіс “Anales de la Universidad de Chile” набіраў навуковую вартасць, яго пачалі рассылаць у розныя ўніверсітэты, акадэміі ды навуковыя таварыствы, атрымоўваючы наўзамен іхныя выданні. Такія сувязі спрыялі развіццю чылійскай навукі і адукацыі.

Асабліва радаваўся Дамейка прыхільнасці студэнтаў, прыязнай атмасферы выкладчыцкага калектыва. Калі мінула пяць гадоў рэктарства, то ў яго ўжо і не пыталіся, ці хоча ён быць рэктарам. Усе перакаваліся, што дон Ігнасіё давер апраўдаў, і 29 верасня 1872 года на пленарным паседжанні Ўніверсітэцкай рады яго амаль аднагалосна абралі на другі тэрмін. Нават дон Антоніё Варас галасаваў за Дамейку.

Але пад час другой кадэнцыі неспадзявана дадаўся новы клопат. У Францыі вяліся спрэчкі пра свабоду навучання. Праз французскія газеты ведалі гэта і ў Сант'яга. Тут таксама аднавіліся падобныя памкненні,

спрыяў ім новы міністр адукацыі, які дамагаўся неабмежаванай свабоды навучання — без усялякага ўрадавага кантролю. Універсітэту пакідалі права выстаўляць адзнакі, але пры такой свабодзе яны нічога б не значылі. Зноў розныя непадрыхтаваныя асобы пачалі ствараць школкі, у якіх фактычна прадаваліся экзаменацыйныя пасведчанні. Ва ўніверсітэт пачалі прыходзіць невукі.

Дамейка разумеў, што намер міністра ў аснове слушны, але на практыцы атрымалася не так, як меркавалася. Была віна і бацькоў, якія не імкнуліся, каб іх нашчадкі сталі сапраўднымі спецыялістамі. Урэшце Дамейка рашуча паўстаў супраць такога наватарства ў адукацыі. Напачатку ўсе згадзіліся на кампраміс: кожнаму дазваляецца ствараць школы і вучыць. Але калі хто хоча далей вучыцца ва ўніверсітэце, можа здаваць экзамены толькі ў тых школах, якія дакажуць, што маюць неабходныя ўмовы, падручнікі ды прылады, адпаведныя тым, якія ёсць ва ўрадавых гімназіях. Экзамены мусілі праводзіцца паводле абавязковай для ўсіх гімназіяў праграме. Неўзабаве ўсё ж была абвешчана ўхваленая парламентам школьная рэформа, паводле якой экзамены ў прыватных навучальных установах неабходна здаваць толькі камісарам, якіх прызначае Ўніверсітэцкая рада.

Але Дамейка спраўляўся з усімі сваімі абавязкамі, знаходзіў час і на даследванні. На той час стос кніг, якія напісаў Ігнат Дамейка, яшчэ больш вырас. Ягоная "Мінералогія" перавыдавалася тры разы, былі надрукаваны і восем дадаткаў да яе — плён 40-гадовага вывучэння мінералаў "ад алмазаў і золата аж да торфу". "Трактат аб прабаванні", паводле якога засвойвалі гэтае рамяство ва ўсіх краінах Паўднёвай Амэрыкі, разросся да трох тамоў. Калегі, прафесары і выкладчыкі паважалі дона Ігнасіё за справядлівасць, лагоднасць характару ды за рашучае, жорсткае стаўленне да парушальнікаў дысцыпліны навучання ва ўніверсітэце. 29 верасня 1877 года ён трэці раз быў абраны рэктарам, хоць наўперад папярэджваў пра

намер падаць у адстаўку, бо прагнуў наведаць Бацькаўшчыну. Нагода выйшла неспадзяваная.

Год таму ў Сант'яга прыехаў госць з Бацькаўшчыны — Дамейкаў пляменнік Лявон, сын брата Казіміра. Лявон закахаўся ў Аніту, Дамейкаву дачку, яна адказала яму ўзаемнасцю. Было вырашана, што Лявон вернецца наступным летам, яны пажэняцца, а жыць будуць у маёнтку Жыбуртоўшчына, што каля Дзятлава. Шлюб адбыўся ў лістападзе 1877 года і маладыя сужэнцы рыхтаваліся ехаць у Беларусь. Ігнат таксама збіраўся ехаць разам з імі, але мусіў застацца.

Трэці тэрмін рэктарства азмрочыла вайна Чылі з Пэру. Шмат студэнтаў пайшлі ў войска, а таму разладзіліся заняткі. Яшчэ больш прыкра было Дамейку ўбачыць трафеі з Лімы. Ва ўніверсітэт прывезлі больш за сто скрыняў прыладаў і рыштунку з абсерваторыі, хірургічных кабінетаў ды хімічных лабараторыяў пэруанскай сталіцы. І міністр адукацыі загадам абавязаў рэктара і прафесара фізікі прыняць скрыні. "Такое даручэнне было для мяне нямілым і вельмі абразлівым, — занатаваў сваё ўражанне Дамейка.— Нагадала мне, што ўчынілі з нашымі бібліятэкамі ды зборамі Віленскага ўніверсітэта расейцы". Дамейка загадаў скласці спіс прывезеных рэчаў з апісаннем стану, у якім яны знаходзіліся, а пасля апублікаваў гэты інвентар ва ўрадавых газетах, каб усе даведаліся, як мала карысці даў гэты рабунак, а як нядобра паўплывае на стасункі паміж двума братнімі народамі.

Такая крытыка ўладаў не паўплывала на стаўленне іх да рэктара. Дона Ігнасіё абралі і чацверты раз. Але гэтая кадэнцыя доўжылася толькі год. Некалькі разоў збіраўся Дамейка на Бацькаўшчыну, ды кожны раз адкладваў. Урэшце ён сабраўся наведаць "далёкі край, дзе расце збажына і шумяць дубы на магілах даўніх ваяроў", памаліцца над магіламі бацькоў і родных.

# ВЯРТАННЕ

*Адстаўка * "Viva Domeyko! Viva Chile!" * Малітва ў Рыо-дэ-Жанэйра * "Я ў Літве!" * Родная Мядзвядка * Пакланіцца магілам блізкіх * У Сачыўках і Жыбуртоўшчыне * Вяртанне назаўсёды*

46 гадоў пражыў Ігнат Дамейка ў Чылі. І, мабыць, не было таго дня, каб не ўспамінаў Радзіму. Ён некалькі разоў хацеў наведаць родных, але стрымлівалі то кантракт, то паўстанцкае мінулае. Сям'я яшчэ мацней прывязала яго да чылійскай зямлі. Пасля смерці жонкі туга па Радзіме набягала ўсё часцей і часцей. Ён пісаў сябру Валерыяну Хэлхоўскаму, што ніякія багацці Новага Свету, ні прыгажосць неба і гор, ні зычлівасць тутэйшых людзей, заслугі, дабрабыт, нават жончына магіла не ўтрымае, калі яму нададарыцца магчымасць з дзецьмі вырвацца за акіян, і быць бліжэй да сяброў, да родных, ды "хоць адзін дзень перад смерцю паглядзець на нашу зямлю...".

Яшчэ ў канцы 1877 года Дамейка падаў просьбу аб адстаўцы, але з прычыны чарговага абрання рэктарам сталічнага ўніверсітэта давялося адкласці выезд яшчэ на пяць гадоў.

30 траўня 1883 года ўрад Чылі прыняў ягоную адстаўку. Палата дэпутатаў зацвердзіла пенсію дону Ігнасіё Дамейку-Анцуту – 6000 піястраў штогод. Нікога так не забяспечвалі на старасць, нават генералаў, якія заваёўвалі незалежнасць Чылі. Урад згадзіўся паслаць за дзяржаўны кошт Казіміра Дамейку, малодшага Ігнатавага сына, вучыцца ў Парыж, бо той вырашыў ісці бацькавай дарогай. Адкладваць наведванне Бацькаўшчыны далей не выпадала. Дамейка спадзяваўся, што яго, філарэта і паўстанца 1831 года,

расейскі ўрад — прайшло паўвека — ужо не будзе караць.

23 траўня 1884 года на вакзале Сант'яга сябры, дэпутаты парламента, сенатары, жончыны сваякі, універсітэцкія прафесары і студэнты праводзілі дона Ігнасіё. Гучалі воклічы "Viva Domeyko!", аркестр іграў нацыянальны гімн Чылі, прамаўлялі сябры і студэнты. Дамейку асабліва ўзрушылі словы аднаго вучня Нацыянальнага інстытута, які вітаў яго і віншаваў з раднасай падзеяй — нарэшце ён убачыць родны край, але наказваў, каб дон Ігнасіё вярнуўся на гэтую, другую Радзіму, здабытую сэрцам. Дамейка быў гэтак расчулены, што, развітваючыся, змог сказаць толькі некалькі словаў і крыкнуць "Viva Chile!" Трое Дамейкавых вучняў — сенатар і дэпутаты парламента, а таксама некалькі ўніверсітэцкіх прафесараў правялі рэктара ў порт Вальпараіса. Там Дамейкі селі на параход «Брытанія» і паплылі праз Магеланаву пратоку ў Стары Свет.

16 чэрвеня "Брытанія" завітала ў затоку Рыо-дэ-Жанэйра. Калісьці па дарозе ў Чылі Ігнат наведаў сталіцу Бразіліі. І гэтым разам з сынамі выбраліся на бераг. А там зайшлі ў першы ж касцёл, які трапіўся ім па дарозе. Гэта быў той самы, у якім больш як сорак гадоў таму, на Вербніцу Ігнат слухаў першую ў Амэрыцы імшу.

Ён укленчыў перад аўтаром, маліўся і дзякаваў Богу за апеку. Нельга без хвалявання чытаць успаміны пра тую малітву. "...Хто ж абярог мяне ад калецтва, ад гібелі ў гарах, на моры, у глыбокіх шахтах, дзе гінуць тысячы маладзейшых і дужэйшых за мяне людзей? Хто ж, калі не Бог, літасціва абярог мяне ад заразных хваробаў, ад наступстваў маіх нягодных схільнасцяў, ад злых людзей? Хто ж дазволіў, што палюбілі мяне чужыя людзі, а пахвальбой, патураннем не ўзбудзілі ўва мне ганарлівасці? Хто ж даў мне новую сям'ю, новых родных і сяброў — замест тых, што памерлі на радзіме? Каму ж я абавязаны гэтым паслухмяным Табе сэрцам, у якім змясціліся і любоў да род-

най і любоў да прыдбанай айчынаў?.. Хто ж урэшце так пакіраваў мною ў маім настаўніцкім пакліканні, што і абавязак выкананы, і заслужана працай маёмасць для дзяцей і для мяне старога, калі не Ты, Божа?".

Ён згадаў, як гадоў з пяцьдзесят таму, пасля нацыянальнай катастрофы, яму, прывучанаму да выгодаў панічоўскага жыцця, кінутаму на прускую пустку, здавалася, што гэтага не перажыве. Усплыло ў памяці развітанне на парыжскім бруку з Адамам Міцкевічам, Багданам Залескім... — назаўсёды! Ці можна забыцца пра буру ў Біскайскім заліве, што разбіла шмат караблёў ды ўвесь дзень і ўсю ноч кідала таго "Павука"*, нібы мяч. Не лепей было каля берага Бразіліі, калі ў вераб'іную ноч карабель пачало церці аб марское дно — трэсліся і хісталіся мачты, канаты, рыпелі карабельныя бэлькі, ужо выносілі на палубу скрыні і грузы, каб скінуць у мора, адвязвалі чаўны і шлюпкі; капітан спалатнеў... Ды Бог ўратаваў.

Ён маліўся, а ў галаве зноў пачалі абуджацца ўспаміны шматлікіх прыгодаў, з якіх Божая рука яго вынесла здаровым. Ігнат прыгадаў, як у адной з цёмных сярэбраных шахтаў, паслізнуўшыся, ужо падаў у глыбокі — мо сто локцяў — ствол шахты, а дужы апір ухапіў яго за нагу і вынес на сваіх плячах; як праз пару гадоў, калі сядзеў ля стала над планам капальні, нібыта невядомая сіла ўмомант кінула яго за парог, і тут жа за ягонай спінаю абрынуўся ад падземнага штуршка ўвесь дом. Паўстала ў думках сальфатара, дзе, лазячы ўвесь дзень у пары і сярністых газах, пакінуты праваднікамі, страціў прытомнасць, а Божае наканаванне прывяло на бераг ручая, ды ноч асвяжыла.

5 ліпеня 1884 года Дамейка з сынамі прыплыў у Бардо. Адтуль праз Парыж, Вену яны прыехалі ў Кракаў, адтуль — у Варшаву. У Польшчы Ігната віталі надзвычай урачыста. Але "на шумных банкетах і вечарынах, што наладжваліся ў мой гонар, бывалі мо-

---

** Так на нашую мову перакладаецца найменне карабля, на якім Ігнат Дамейка плыў некалі з Англіі ў Чылі.*

манты, калі я адчуваў, як шыбае мне ў скроні кроў пры думцы, што я хутка буду дома, што я яшчэ не здзейсніў мэту свайго падарожжа. Я ўсхопваўся сярод ночы, гледзячы ў акно, ці днее, падлічваў гадзіны". 8 жніўня з сынамі, з сябрам-філаматам Антонам Адынцом Ігнат выехаў з Варшавы цягнікам. "...Мінаем Міньск, Седльцы, а тут ужо і Буг, начное Берасце — я ў Літве!.. Як толькі цягнік рушыў далей, мае таварышы паснулі, я ж не мог і павекі звесці: выглядаў світанак, нібыта збавенне. Ледзь пачало світаць, бачу — Гародзей".

Раніцай 9 жніўня на станцыі, што цяпер завецца Гарадзея, яго сустракалі шматлікія сваякі і пляменнікі, дачка, зяць. Па дарозе ў Мядзвядку госць любаваўся роднымі краявідамі. Пасля ў дзённіку Дамейка напісаў, што на ўсё гэта глядзеў у душы і Міцкевіч, калі пісаў "Пана Тадэвуша". Са слязьмі радасці абабег Ігнат усе пакоі дома, дзе нарадзіўся і дзе прайшло дзяцінства, пацалаваў зямлю каля парога былой Мядзвядскай вуніяцкай царквы, дзе род Дамейкаў, сямейнікі Гіпаліта Дамейкі хрысціліся, вянчаліся, маліліся.

10 жніўня Ігнат з зяцем Лявонам паехаў у Мір, на магілу бацькі каля былога "парафіяльнага вуніяцкага касцёла, леваруч ад увахода". Хоць Ігнат меў толькі сем гадоў, як памёр бацька, успомніў месца яго пахавання.

Ён наведаў памятныя мясціны наваколля, завітаў і ў Паланечку, дзе прыгадаў, што яго хрысціў ксёндз мясцовага касцёла. Радасныя і маркотныя хвіліны перажыў Ігнат у Сачыўках каля Баранавічаў, куды ў дзяцінстве прыязджаў да бабулі. Там жа пражыла апошнія свае гады і была пахавана ягоная маці, і ён пайшоў памаліцца на яе магіле. Пакланіўся і дзядзькаваму праху на могілках каля вёскі Норцавічы блізу Дзятлава.

Усюды жаданага госця, аднаго з апошніх філарэтаў, сардэчна віталі, сустракалі "хлебам і сырам". Лагодзілі Дамейкаву душу словы простых сялянаў, такіх, як і ён, старых, якія казалі, што памятаюць яго маленькім. Іх шчырыя беларускія словы засталіся навеч-

на на старонках ягоных успамінаў "Мае падарожжы. Дзённікі выгнанніка".

Заакіянскаму госцю добра сядзелася "ў цёплым кутку" зяцевага палаца ў Жыбуртоўшчыне, душа адпачывала сярод родных палёў і лясоў. Але няўрымслівая натура цягнула яго ў свет. Некалькі разоў Дамейка выязджаў у Парыж, наведаў Рым, Ерусалім. Чатыры гады праляцелі незаўважна...

Госць так і застаўся госцем. На Бацькаўшчыне ён быў патрэбны толькі родным. Дамейку, які ўсё жыццё працаваў, займаўся любімай справай, не такімі бачыліся апошнія гады жыцця. І ён вярнуўся ў Чылі, дзе быў патрэбны, дзе яго чакалі — не выпадкова ж праз год пасля ягонага ад'езду на Бацькаўшчыну там выбілі залаты медаль з партрэтам Дамейкі.

Пасля вяртання на новую Радзіму дон Ігнасіё пражыў нядоўга. 23 студзеня 1889 года па ўсёй дзяржаве была абвешчана жалоба: памёр нацыянальны герой Чылі. Але яго імя жыве, жыве ў Ла-Серэне, у Сант'яга, у Вялікай Мядзвядцы. Будзем спадзявацца, што будзе жыць і ў нашых душах.

## ЗМЕСТ

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ
Серыя акадэмічная

---

Навукова-папулярнае выданне

**Сіцька Здзіслаў**

**ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЗБІРАЎ КАМЯНІ**

**ІГНАТ ДАМЕЙКА**

Рэдактар *Алесь Саламевіч*
Макетаванне *Наталя Санько*
Мастацкае афармленне *Кастусь Кіслейка*
Карэктар *Алесь Слагада*

Падпісана ў друк 05.01.05. Фармат 84×100 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура літаратурная. Ум.-друк. арк. 3,51+0,78 укл. на крэйд. паперы. Ул.-выд. арк. 4,2. Наклад 1000 паасобнікаў. Замова № 2.

Выдавец і паліграфічнае выкананне НВК «Тэхналогія».
ЛВ № 02330/0133234 ад 30.04.04. 220007, Мінск, вул. Ляўкова, 19.



НАШЫ
СЛАВУТЫЯ
ЗЕМЛЯКІ

*Віленскі ўніверсітэт*

*У паўстанцкім войску*

*Ад'езд у Чылі*

*Першыя заняткі*

*Экскурсія ў сярэбраныя капальні*

*Пустыня, дзе вольна думаецца*

*Як знаходзяць радовішчы*

*Калідорная навука*

*Дамейкіт*

*Араўканскія героі*

*Чылійскі ўніверсітэт*

*Дайсці да кратэра новага вулкана*

*Цуд выратавання*

*Ліцьвін-беларус — рэктар універсітэта*

*"Viva Domeyko!"*

*Вяртанне назаўсёды*

ISBN 985-458-095-4

